*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 30 (242) | 26 ліпеня 1995 г. | Кошт — 500 рублёў

ЗАДЗІНОЧАННЕ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ Стар. 2.

З'ЯВА, ШТО НЕ МАЕ АНАЛАГА Стар. 6.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **Споўнілася 585 гадоў перамогі аб'яднанага беларуска-літоўска-польскага войска над крыжакамі Тэўтонскага ордэна пад Грунвальдам.**

○ ***У адным з апошніх нумароў газеты «Звязда» змешчана гутарка Галіны Айзенштат з памочнікам Прэзідэнта па асобых даручэннях Віктарам Кучынскім.*** *У час гутаркі яму было зададзена пытанне: «Вы цудоўна гаворыце па-беларуску. Гэта — «рэпетыцыя» будучага спікера ці перакананасць, што кожны грамадзянін Беларусі павінен ведаць дзяржаўную мову?». Спадар Кучынскі адказаў: «Я да сёмага класа вучыўся ў беларускай школе. Сам я нарадзіўся ў Гомельскай вобласці, я — беларус, ну, можа не зусім добра валодаю роднай мовай... Нашы людзі такія, што ніколі ніхто не ўспрымаў, калі іх «ціснулі». Таму, калі мы хочам адрадзіць нашу родную мову, то гэта павінен быць эвалюцыйны працэс». Тут жа на пытанне карэспандэнта: « Як вы ўспрымаеце лозунг «Няхай жыве Беларусь!» спадар Кучынскі адказаў: « Я ўспрымаю лозунг «Няхай жыве Беларусь!» так: «Пусть всегда живёт Беларусь!» Таму што Беларусь — гэта мая радзіма! А бацьку з маці не выбіраюць. Веру — не мяняюць! Радзіму — не прадаюць!» Такіх бы думак усім памочнікам і дарадцам Прэзідэнта!*

○ **Менск наведаў з афіцыйным двухдзённым візітам Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма.** У час перамоў з Аляксандрам Лукашэнкам Леанід Кучма заявіў, што ён шлагбаум на граніцы дзвюх краін здымаць не збіраецца. Прэзідэнтамі быў падпісаны палітычны дагавор і шэраг двухбаковых пагадненняў.

○ ***У Менску ў нішы сцяны на рагу дома №2 па вуліцы Рэвалюцыйнай адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка выдатнаму беларускаму пісьменніку Максіму Гарэцкаму.***

○ **У вышэйшых навучальных установах нашай краіны пачаліся ўступныя экзамены.** У першы дзень з гэтай падзеяй абітурыентаў павіншаваў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка і аб'явіў тэмы сачыненняў. Але ці прэзідэнцкая гэта справа аб'яўляць тэмы сачыненняў?

○ ***1 верасня, як і ў іншых ВНУ Беларусі, пачнуцца заняткі*** *ў нядаўна створанай Ваеннай акадэміі Узброеных Сіл Беларусі. Абучэнне аднаго слухача ў расійскай Ваеннай акадэміі сёння абыходзіцца Беларусі прыкладна ў 1 тысячу долараў ЗША ў месяц.*

○ **Партыя народнай згоды, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, Партыя ўсебеларускага адзінства і згоды і Партыя цвярозага розуму заявілі** аб сваім імкненні зліцца ў адзіную палітычную арганізацыю, падпісаўшы пратакол аб намеры стварэння «Сацыял-дэмакратычнага саюза».

○ ***Выйшаў у свет першы нумар часопіса для дзяцей «Лесавік».*** *Рэдактар і заснавальнік выданння — пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік.*

## Беларусь яшчэ не развучылася смяяцца



Хто пабываў на свяце смеху ў Вялікіх і Малых Аўцюках на Гомельшчыне, можа смела сказаць, што яны сталі міжнародным цэнтрам гумару. Да аўцюкоўцаў завіталі аматары жартаў з Расіі, Украіны, Летувы ды Балгарыі і, апроч таго, — дэлегацыі з усіх абласцей Беларусі. З блізкіх Мазырскага ды Калінкавіцкага раёнаў сабраліся, бадай, усе.

Па сваім стаўленні да гумару аўцюкоўцы нечым падобныя на балгараў-габраўцаў, але ж іх гумар спрадвечна беларускі, палескі, зычлівы. Гэткім жа атрымаўся і першы міжнародны фестываль гумару «Аўцюкі-95». У ягонай праграме былі агляды прысядзібных гаспадарак з дэгустацыяй палескіх прысмакаў, конкурсы анекдотаў, прыпевак ды баек.

Доўга памятацьмуць свята гумару ягоныя ўдзельнікі. Тут панавалі вяселле, смех, жарт, прымаўка. Чаго ж яшчэ трэба дзеля файнага адпачынку.

**На здымках:**
Урачыстае адкрыццё свята.
Агляд двара.

**Тэкст і фотаздымкі Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, Белінфарм.**



*Ігар МУХІН-РАБЯНОК*

## «Да сустрэчы»

Да сустрэчы, «Пагоня»!
Да сустрэчы, наш сцяг!
Так нядоўга зусім вы над намі лунали.
«Дзякуй» усім спадарам, што вас ціха прадалі,
Так і не патрымаўшы ніколі ў руках.
**Прыпеў:**
Спі, пі гарэлку, гуляй,
«Северо-Западный край».

Вы прабачце, дзяды, што ўсё разам аддалі,
Зноў чырвоная пошасць ірвецца ў наш дом,
Толькі то, што прадалі, усё адно пранясем,
Колькі б бруднымі ботамі нас ні таптала!
**Прыпеў.**

Пастухоў з бізунамі не будзе над намі!
І народ канюшнаю не накарміць,
А «Пагоня» жыва і яшчэ будзе жыць,
Колькі б вы ні здзіралі яе кіпцюрамі.
**Прыпеў.**

## Міжпартыйныя кантакты

13 ліпеня ў штаб-кватэры Хрысціянска-дэмакратычнага выбару адбылася рабочая сустрэча лідэраў гэтай партыі з кіраўніцтвам некаторых іншых беларускіх дэмакратычных партый цэнтрысцкай арыентацыі.

Хрысціянска-дэмакратычны выбар прадстаўлялі старшыня партыі — пісьменнік, вядомы прадпрымальнік Валерый Сарока і старшыня выканкама Аляксандр Рэшыцька, Беларускую сялянскую партыю — яе старшыня Яўген Лугін і сябра цэнтральнай рады партыі Барыс Крывенка. У сустрэчы браў таксама ўдзел Уладзімір Ступнікаў — палітолаг-эксперт Грамадзянскай партыі.

Прысутныя аднадушна прызналі, што зараз, напярэдадні восеньскіх выбараў у Вярхоўны Савет, палітычныя рэаліі Рэспублікі Беларусь настойліва патрабуюць неадкладнай кансалідацыі ўсіх цэнтрысцкіх партый і плыняў, паслядоўнага згуртавання іх у адзіны рэспубліканскі рух альбо блок. Канкрэтныя формы такога аб'яднання ў бліжэйшы час будуць разгледжаны ў ходзе наступных міжпартыйных кантактаў і кансультацый.

Удзельнікі сустрэчы прыйшлі да высновы, што грунтам аб'яднання цэнтрыстаў могуць стаць розныя палітычныя групоўкі і сілы — не прыхільнікі «левай» ці «правай» дактрын, а тыя, якія падзяляюць прынцыпы паслядоўнага ўмацавання беларускай дзяржаўнасці і выступаюць за шырокае ўкараненне на Беларусі рынкавых адносін пры гарантаваным захаванні прыярытэту агульначалавечых каштоўнасцяў, замацаваных у вядомай Дэкларацыі правоў чалавека ААН. Разам з тым было адназначна падкрэслена, што ў беларускай дзяржаве адзінай афіцыйнай дзяржаўнай мовай павінна заставацца мова карэннай тутэйшай нацыі, якая дала гістарычнае імя нашай краіне.

На думку ўдзельнікаў сустрэчы, уваходжанне ў адзіны рэспубліканскі цэнтрысцкі рух (блок) таксама вымагае ад тых, хто пажадае да яго далучыцца, абавязкова прытрымлівацца хрысціянскіх ідэалаў высокай духоўнасці, прапагандаваць любоў да бліжняга, шырокую талерантнасць, выступаць за поўнае прызнанне комплексу гуманітарных правоў для ўсіх грамадзян нашай бацькаўшчыны без уліку іх нацыянальнасці, канфесійнай прыналежнасці і ўвогуле стаўлення да рэлігіі.

Запланавана працягваць падобныя каардынацыйныя рабочыя сустрэчы і кансультацыі, накіраваныя на згуртаванне палітычных сіл Беларусі цэнтрысцкага накірунку.

М.В.

# Задзіночанне беларускіх студэнтаў: працаваць дзеля радзімы і свайго народа

*Гэтая рэспубліканская маладзёжная арганізацыя была афіцыйна зарэгістравана 20 сакавіка 1992 года і мела наступныя статутныя мэты і задачы: развіццё і ўмацаванне дзяржаўнасці Беларусі, нацыянальнае адраджэнне беларускага народа, стварэнне на Беларусі нацыянальнай па духу вышэйшай школы ды павышэнне яе адукацыйнага ўзроўню. Сёння ЗБС аб'ядноўвае некалькі соцень навучэнцаў ВНУ ў розных гарадах краіны, супрацоўнічае з беларускімі маладзёжнымі арганізацыямі і суполкамі як у Беларусі, так і за яе межамі.*

*Больш падрабязна пра дзейнасць Задзіночання карэспандэнту «Нашага слова» расказаў Алег Стасевіч — сябра Рады ЗБС, старшыня суполкі ЗБС Менскага медычнага інстытута.*

**— Пераважная большасць студэнтаў, якія вучацца ў ВНУ краіны, — грамадзяне Беларусі. Але з назвы вашай арганізацыі вынікае, што беларускімі студэнтамі можна лічыць не ўсіх...**

— Адзінае нашае адрозненне ад усіх іншых студэнтаў — свядомае карыстанне беларускай мовай. Гэта і адлюстроўвае назва нашай арганізацыі. Бо сябры ЗБС атрымліваюць вышэйшую адукацыю не толькі дзеля таго, каб павысіць свой сацыяльны статус. Акрамя гэтага, яны хочуць нешта зрабіць і для сваёй радзімы, для свайго народа. Беларускія — значыць беларускамоўныя, якія маюць вызначаную нацыянальную арыентацыю.

**— А як далучыліся да Задзіночання Вы самі?**

— У 1991 годзе я паступіў у інстытут і адразу ж пазнаёміўся з тымі сябрамі арганізацыі, якія там ужо вучыліся. З гэтага ўсё і пачалося.

**— ЗБС прывабіла Вас як нацыянальная ці проста студэнцкая арганізацыя?**

— Мне хацелася зрабіць нешта самому ў справе, якую я абраў, — у медыцыне, і да таго ж зрабіць гэта па-беларуску. Бо ж нармальнае існаванне нацыі азначае ўжыванне яе мовы ва ўсіх аспектах чалавечага жыцця. А беларуская медычная тэрміналогія знаходзілася тады (ды і знаходзіцца цяпер) на ўзроўні, дасягнутым ёй 70 гадоў таму, не кажучы ўжо пра адсутнасць штодзённага яе ўжывання. Усё гэта я разумеў, і ўдзел у ЗБС быў для мяне пераходам ад словаў да канкрэтнай справы. Існаванне арганізацыі спрошчвала выкананне маіх планаў, тым больш, што тады ў інстытуце вучыўся Зміцер Салошкін — адзін з заснавальнікаў арганізацыі і найбольш актыўных яе ўдзельнікаў. Ён, дарэчы, і далучыў мяне да дзейнасці ЗБС.

**— Які характар мае арганізацыя сёння — палітычны, нацыянальны, грамадскі, асветніцкі? Якая яе структура?**

— Ва ўсялякім выпадку, не палітычны і нават не грамадска-палітычны. Мэта існавання ЗБС — культурна-асветніцкая і навуковая дзейнасць. Што да структуры, дык яе нельга назваць жорсткай ці цэнтралізаванай. Кожная з суполак, якія ствараюць Задзіночанне, дзейнічае самастойна, а Рада хіба што каардынуе іх дзейнасць. Таму, напрыклад, у сваім інстытуце мы дзейнічаем аўтаномна і робім тое, што лічым патрэбным, — удзельнічаем у складанні слоўнікаў і дапаможнікаў, рыхтуем іх да друку, заключаем пагадненні з друкарнямі. Бо ЗБС створана не дзеля кіравання студэнтамі. Гэта, хутчэй, юрыдычная і арганізацыйная база самадзейных нацыянальных суполак, дзеючых у розных ВНУ.

**— Наўрад ці гэта спрыяе ўзмацненню арганізацыі...**

— Нашую структуру наўрад ці можна называць арганізацыяй у звычайным разуменні гэтага слова. Яна больш нагадвае суполку, бо мае ўласныя мэты, але не акрэсленыя прынцыпы працы, стратэгію, але не тактыку. У адных умовах гэта можа быць заганай, у другіх — перавагай, тым не менш менавіта гэткі выгляд захавала ЗБС на працягу ўсяго свайго існавання.

**— Чым займаецеся сёння?**

— Кірункі нашай дзейнасці — сацыяльная абарона студэнтаў і забеспячэнне ім магчымасці атрымання адукацыі і заняткаў навукай у роднай мове. Мы займаемся беларусізацыяй у тым яе разуменні, якое склалася на пачатку стагоддзя: беларушчына як прыватная справа, якая не ўваходзіць у вялікую палітыку. Людзі, якія гэта робяць, дзейнічаюць свядома і добраахвотна. Таму слушна будзе сказаць: ЗБС яднае людзей, з якіх заўтра паўстане новае пакаленне нацыянальнай інтэлігенцыі.

Так, у інстытуце, дзе я вучуся, наша суполка невялікая, але дзейнасць яе вельмі плённая, бо супрацоўнічае з ёю каля сарака чалавек — студэнтаў і выкладчыкаў. Таму мы можам выдаваць падручную і метадычную літаратуру, медычныя слоўнікі ды іншыя кнігі, якія без нашай ініцыятывы, можна сказаць пэўна, не ўбачылі б свету.

**— У свой час ЗБС было зарэгістравана як калектыўная сябрына ТБМ. Ці працягваюцца вашыя кантакты з Таварыствам сёння?**

— Нашая сувязь з Таварыствам — рэч натуральная. Яна існавала заўжды. Бо ж адзін з кірункаў дзейнасці Задзіночання — напрацоўка беларускай навуковай тэрміналогіі. Таму многія з нашых студэнтаў, у тым ліку і я, уваходзяць у склад дзеючых структур Таварыства, напрыклад, тэрміналагічнай камісіі.

**— Дагэтуль мы гаварылі аб унутраным жыцці вашай арганізацыі. А як складваюцца яе дачыненні з кіраўніцтвам ВНУ?**

— Вельмі добра. У нас цудоўныя адносіны з усімі выкладчыкамі, нават з тымі, якія не так даўно заяўлялі: «Мы органически не принимаем ваших позиций». Бо наша мэта — не прапаганда ці накідванне іншым сваіх поглядаў, а забеспячэнне ўмоваў для атрымання студэнтамі адукацыі ў беларускай мове. Тое, што мы дзейнічаем, імкнучыся пазбягаць канфліктаў (а раней яны здараліся), вельмі нам спрыяе. Таму я ніколі не чуў ад інстытуцкага начальства словаў: «гэта рабіць можна, а гэта — не». Мы жадаем слухаць лекцыі па-беларуску і мець беларускія падручнікі — нам дапамагаюць. Так, на нашай інстытуцкай кафедры фізікі замест састарэлага расійскамоўнага дапаможніка цяпер выкарыстоўваецца яго дапрацаваны беларускамоўны варыянт, адрэдагаваны намі. Галоўнае, што патрэбна кіраўнікам вышэйшых школ, — ініцыятыва і жаданне працаваць — у нас ёсць.

**— Ці не адчулі сябры вашай арганізацыі іншага да сябе стаўлення пасля правядзення рэферэндуму?**

— Не. Ні ад каго яшчэ я не чуў забароны наладжваць беларускую адукацыю. Ды інакш не можа і быць — статус нашай мовы застаўся ранейшым.

**— Нягледзячы на ўсё, што робіць ЗБС, кола яго сяброў застаецца абмежаваным і пашыраецца вельмі павольна. Ці не хвалюе Вас тое, што праз некалькі гадоў гэтыя людзі — сённяшнія студэнты будуць, як і сённяшнія іхнія папярэднікі, беспаспяхова заклікаць да адраджэння Беларусі перад аблічам абыякавай да таго большасці грамадства?**

— Я рэаліст і разумею: сённяшнія ўдзельнікі ЗБС, атрымаўшы дыплом і ўладкаваўшыся на працу, найбольш верагодна патрапяць у кола людзей іншай культуры і з іншым ладам думак. Не думаю, што ўсе яны акажуцца настолькі моцнымі, каб у гэтых умовах стала карыстацца беларускай мовай. Ды і не для ўсіх гэта акажацца магчымым у іхняй практычнай дзейнасці — уявіце сабе лекара, які звяртаецца да хворага на мове, якую той блага разумее! Але тыя, што выйдуць з нашых шэрагаў, будуць людзьмі, маючымі сфармаваны беларускі светапогляд, хаваць які і саромецца якога яны не будуць. Зусім не абавязкова, каб сённяшнія студэнты ў будучым займаліся актыўнай грамадскай ці палітычнай дзейнасцю. І без таго іхні ўплыў на грамадства будзе дастаткова значным ужо таму, што яны, у адрозненне ад шмат іншых, будуць асобамі з адчуваннем сваёй блізкасці да Беларусі.

Гаворачы аб гэтым, я нагадаю аб тэндэнцыі, што існуе ў сённяшнім беларускім руху, — імкненні многіх адраджэнцаў паказаць усяму свету, якія шчырыя яны беларусы. Але ж быць беларусам азначае не толькі гаварыць па-беларуску з аднадумцамі, але і быць годным прадстаўніком свайго народа і сваёй дзяржавы сярод людзей, якія могуць быць да іх зусім не прыхільнымі і дзеля абароны сваіх прынцыпаў карыстацца нават іхняй мовай.

Я ўпэўнены: тыя, каго яднае наша арганізацыя, ужо зрабілі свой выбар на карысць беларушчыны. А што датычыць вонкавай атрыбутыкі, дык сёння адраджэнне — не столькі захаванне мовы як масавай з'явы, колькі захаванне дзяржаўнасці нашага народа і фармаванне адпаведнай грамадскай думкі.

**— Не так даўно адзін з нашых чытачоў даслаў у рэдакцыю ліст з просьбай часцей пісаць аб праблемах беларускай моладзі. Якія праблемы паўстаюць перад ЗБС?**

— Адзіная, якая розніць нас з іншымі студэнтамі, — адсутнасць беларускіх падручнікаў. Ва ўсім астатнім мы такія ж самыя.

**— А такой праблемы, як моўнае асяроддзе, для вас не існуе?**

— Мы можам вылучацца сярод сваіх аднагодкаў мовай, але хто цяпер звяртае на гэта ўвагу? Да таго ж людзі з Задзіночання часта кантактуюць паміж сабой не толькі на арганізацыйным, але і на прыватным узроўні. Мы разам ходзім у вандроўкі, сустракаемся ў інтэрнатах... Усе мы ведаем адзін аднаго і ствараем уласнае асяроддзе, у якім стала гучыць беларуская мова.

Калі ўжо гаварыць аб праблемах, дык можна згадаць адну дастаткова сур'ёзную: жаданне часткі нашых сяброў далучыць арганізацыю да палітыкі. На мой погляд, рабіць гэтага не варта хаця б дзеля таго, каб не ставіць пад пагрозу справу беларусізацыі вышэйшай школы, якой мы займаемся. Палітыка бывае розная, а нацыянальны рух — з'ява больш шырокая, якая датычыць усіх. А беларускае асяроддзе, якое мы разам з іншымі ствараем, з цягам часу само вылучыць нацыянальных палітыкаў. Сёння ж тыя, хто прэтэндуе на гэтую ролю, часам імкнуцца мець падтрымку нацыянальных арганізацый, такіх, як наша. Таму ў выпадках, калі кіраўніцтва ЗБС спрабуе падтрымаць нейкія ініцыятывы палітычных партый, напрыклад БНФ, мы чуем ад такіх жа, як мы, але расійскамоўных студэнтаў: «Вот, все они такие». Далучэнне да палітыкі раз'ядноўвае моладзь нават не паводле прынцыпу нацыянальнай прыналежнасці ці грамадзянства, бо ж усе мы беларусы, а паводле моўнай арыентацыі. Гэта папросту палохае тых расійскамоўных студэнтаў, якія гатовыя падтрымаць нашы нацыянальныя прыярытэты, але не цікавяцца палітыкай ці маюць уласныя на яе погляды.

**— А як вырашаюцца падобныя пытанні ў суполцы вашага інстытута?**

— Як я ўжо казаў, яна малая. Але з намі супрацоўнічаюць каля чатырох дзесяткаў студэнтаў і выкладчыкаў. Дык вось: гэтыя людзі дапамагаюць нам ва ўсім. Фактычна, яны такія ж ЗБСаўцы, як і мы, на іх можна абаперціся, хаця многія з іх і не гавораць па-беларуску. Гэткі стан рэчаў я лічу дасягненнем, бо ведаю, што мноства нашых суполак са значна большай колькасцю ўдзельнікаў існуюць толькі на час, калі іх сябры п'юць піва ці лаюць кагосьці за адсутнасць патрыятызму. На гэтым іхняя практычная дзейнасць сканчваецца, бо па-за межамі сваёй кампаніі такія студэнты забываюцца і пра Задзіночанне, і пра беларушчыну.

**— У краіне існуюць розныя маладзёжныя арганізацыі, адны з якіх карыстаюцца маральнай і матэрыяльнай падтрымкай уладаў, другія — не. Да якой з гэтых дзвюх групаў належыць ЗБС?**

— Дзяржаўных датацый мы не атрымліваем, але нашай дзейнасці не перашкаджаюць. Наадварот, слушна будзе сказаць, што мы маем падтрымку дзяржавы, хай нават ускосную, — праз адміністрацыю тых ВНУ, якія прадастаўляюць памяшканні для нашай працы. Акрамя таго, летась ЗБС было ўключанае ў спіс арганізацый, маючых ільготнае падаткаабкладанне.

Іншая рэч тое, што значна большую дапамогу нам аказваюць недзяржаўныя арганізацыі і прыватныя асобы, на ахвяраванні якіх мы і займаемся выдавецкай ды іншай дзейнасцю. Менавіта на прыватныя грошы мы выдалі хімічны і фізіялагічны беларускія слоўнікі, іншыя кнігі.

Зразумела, што калі б дзяржаве было патрэбна новае пакаленне нацыянальнай інтэлігенцыі, дык нашыя з ёю адносіны мелі б іншы выгляд. Тым не менш паўтару: нам мала спрыяюць, але не замінаюць.

**— У краінах, дзе адбываюцца радыкальныя грамадскія пераўтварэнні, пачынальнікам іх заўсёды бывае студэнцтва. Чаму, на Ваш погляд, уплыў на падзеі ў Беларусі ЗБС ды іншых студэнцкіх арганізацый вельмі нязначны?**

— Час пераўтварэнняў у нашай краіне далёка наперадзе. А ў сённяшняй Беларусі мара кожнага студэнта — без перашкод атрымаць бясплатную пакуль што вышэйшую адукацыю і неяк уладкавацца на працу, найлепш за мяжой. ЗБС — арганізацыя, далёкая ад радыкалізму, і таму мэты яе ўдзельнікаў камусьці могуць падацца абмежаванымі: вучыцца па-беларуску і працаваць для свайго краю. Але для нас гэтага дастаткова.

**Распытаў У.ПАНАДА.**

# Свята нацыянальнага пісьменства і друку

У Міністэрстве культуры і друку адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта свята беларускага пісьменства і друку, якое на пачатку верасня ўжо другі раз будзе адзначаць наша краіна.

Эстафету старажытнага Полацка, які стаў цэнтрам леташніх урачыстасцяў, сёлета пярэйме Тураў. Але святочным гэты дзень стане не толькі для землякоў вялікага асветніка Кірылы Тураўскага. Урачыстасці адбудуцца ў Полацку, Менску, мностве гарадоў і вёсак Беларусі.

Часткай праграмы свята стануць тэатралізаваныя шэсці і прадстаўленні, выступленні фальклорных і эстрадных калектываў. Напярэдадні свята ў сталіцы пройдзе прыўрочаны да яго фестываль прэсы. Акрамя самадзейных выканаўцаў, удзельнікамі свята беларускага пісьменства і друку стануць такія вядомыя калектывы, як «Харошкі», «Купалінка», «Песняры».

# Случчыны святыя камяні

2 ліпеня адбылася чарговая краязнаўчая экскурсія сяброў клуба аматараў беларускай гісторыі і культуры пры філіі музея М.Багдановіча «Беларуская хатка» ў Менску. Гэтым разам шлях пралягаў на багатую сваім мінулым Случчыну. Да святога каменя, якому і сёння пакланяюцца людзі, ля вёскі Госьбішчы, што недалёка ад Валяр'янаў, былі прынесены ахвяраванні. Хтосьці паклаў на камень грошы, хтосьці пернік, а хтось букет палявых кветак. У Замосці, ужо на Случчыне, з сярэдзіны XVII стагоддзя мелі сваю місію езуіты. Ад тых часоў захаваўся касцёл, які цяпер рэстаўруецца. У гэтай жа вёсцы нарадзіўся беларуска-польскі пісьменнік, сябра Сыракомлі Адам Плуг. Родам з суседняга Покаршава — беларускі паэт-эмігрант Міхась Кавыль, а з недалёкага Заполля — беларускі палітычны дзеяч педагог Радаслаў Астроўскі.

У Слуцку экскурсанты пабывалі на магіле беларускага паэта-дэмакрата Альгерда Абуховіча. Усе былі ўражаныя прыгажосцю Слуцкай Міхайлаўскай царквы і будынка хрысцільні пры ёй, дзе размяшчаюцца таксама царкоўная школа і бібліятэка. Цёпла прынялі менскіх гасцей у Слуцку журналіст Міхась Тычына і краязнаўца, дырэктар дзіцячай мастацкай школы Ігар Ціткоўскі. Яны правялі экскурсію па гістарычным цэнтры Слуцка. Наведалі экскурсанты і слуцкія «Курапаты» ў ваколіцы пас. Кучына, дзе ў 1930-я гады расстрэльвалі «ворагаў народа». Да помніка, устаноўленага ураджэнцам гэтых мясцін А.Р.Ралько, былі ўскладзены кветкі.

Завяршылася падарожжа наведаннем мястэчка Грозаў. Старая забудова яго цэнтра, крыж у гонар паўстанцаў 1920 года, велічны палац, месца жыцця і магіла самабытнай мастачкі Алены Кіш — усё гэта, а таксама незапланаваныя сустрэчы з цікавымі людзьмі пакінулі добрую памяць пра Грозаў. Ураджанні далі яшчэ адну магчымасць адчуць гонар за наш край, за родную Беларусь.

**Ігар ГАТАЛЬСКІ, краязнаўца.**

# Прэфект бельскіх школ

## *(Айцец Канстанцін Байко)*

Летась споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння і 10 гадоў ад часу смерці а.Канстанціна Байко, якога сотні бельчукоў памятаюць як настаўніка Закона Божага ў беларускіх школах Бельска.

Нарадзіўся а.Канстанцін у Белавежы. Атрымаўшы пачатковую адукацыю, у 1927 годзе пачаў вучобу ў Віленскай духоўнай семінарыі. Паспяхова скончыў яе праз пяць гадоў і паступіў на першы курс багаслоўскага аддзялення Варшаўскага універсітэта. Быў пасвечаны ў 1934 годзе і служыў у парафіі Свержы на Холмшчыне, адначасова працягваючы навучанне ва універсітэце. У 1937 годзе абараніў дыплом магістра багаслоўя і быў прызначаны вікарыем ва Увасхрасенскую парафію ў Клецку, дзе ў навучальных гадах 1937/1938 і 1938/1939 навучаў дзяцей Закону Божаму. У Клецку а.Канстанцін служыў увесь перыяд савецкай ды нямецкай акупацый.

У ліпені 1944 года, калі пачаў набліжацца фронт, а Канстанцін пераехаў у Бельск-Падляскі — цэнтр Праваслаўнай царквы на ўсходзе Польшчы, значную частку насельніцтва якога складалі праваслаўныя беларусы.

У верасні 1944 года а.Канстанцін быў прызначаны настаўнікам Закона Божага ў бельскай Беларускай гімназіі. Навучанне адбывалася ў цяжкіх умовах — у час адступлення нямецкіх войск горад на 70 працэнтаў быў спалены, але настаўнікі і святары рабілі ўсё, што маглі, каб даць дзецям і моладзі належную адукацыю і выхаванне.

Гэты перыяд для праваслаўных жыхароў Бельска быў неспакойным: накіраваны на пачатку 1945 года ў горад а.Мікалай Вінцукевіч рабіў усё, каб падпарадкаваць парафіі Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на Беласточчыне Маскоўскаму патрыярхату. Рашэннем Патрыярхату ад 22 лютага 1945 года Бельск стаў цэнтрам Беластоцкай праваслаўнай епархіяльнай управы РПЦ. Каардынатарам яе дзеянняў быў прызначаны а.М.Вінцукевіч.

Сярод беларускага насельніцтва і беларускага духавенства далучэнне царквы на Беласточчыне да Маскоўскага патрыярхату ўспрымалася неадназначна. Стаўленне да гэтага а.Байко паказвае наступны складзены ім дакумент — заява, накіраваная дырэкцыі Беларускай гімназіі і куратару Беластоцкай школьнай акругі. У ёй а.Канстанцін пісаў: «Падаю да ведама, што з маральных прычынаў далей навучаць рэлігіі ў Беларускай дзяржаўнай гімназіі ў Бельску-Падляскім не магу».

Абстаноўка, якая склалася, не спрыяла наладжванню нармальнага грамадскага, нацыянальнага і царкоўнага жыцця. У святароў, якія адмаўляліся падпарадкоўвацца прадстаўнікам Маскоўскага патрыярхату, адбіралі права на служэнне. На пачатку 1946 года дзяржаўныя ўлады Польшчы імкнуліся канчаткова вырашыць пытанні існавання царквы на Беласточчыне. Адбыўся з'езд праваслаўнага духавенства Бельскага павета, на якім прысутныя падпісалі заяву аб падпарадкаванні ўладзе іерархаў Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Сярод іх быў і а.К.Байко.

На той час а.Байко — высокаадукаваны чалавек, які карыстаўся павагай вернікаў і меў вялікі ўплыў на іхніх дзяцей, — стаў, нягледзячы на гэта, для новых, пракамуністычных дзяржаўных уладаў Польшчы нявыгадный асобай, бо ў сваіх пропаведзях адкрыта выступаў супраць зла, якое нёс камунізм. Таму далейшы лёс яго пачалі вырашаць савецкія і польскія спецслужбы. 16 сакавіка 1946 г. ён быў затрыманы проста на вуліцы. Пасля кароткага побыту ў руках польскіх спецслужб, святар быў адвезены ў Бярэсце, а адтуль — у Менск. Устрывожаная знікненнем а Канстанціна сям'я спрабавала шукаць яго, звяртаючыся ў службы бяспекі і да ваяводскіх уладаў, але ўсё гэта было безвынікова. Справа знікнення святара пайшла водгуллем па ўсім рэгіёне.

Тым часам а.Канстанцін пасля амаль гадавога зняволення ў менскай турме быў накіраваны ў лагер у Сібіры, каля Варкуты, дзе ў страшэнных умовах працаваў у шахтах. Выратаваць жыццё яму дазволіла цікаўнасць да медыцыны, якую ён вывучаў яшчэ ў семінарскія гады. Апошні час свайго зняволення айцец Канстанцін працаваў у лагеры фельчарам, не забываючыся і на душпастарскую справу: калі было магчыма, ён спавядаў, хрысціў зняволеных.

У сувязі з новай палітычнай сітуацыяй у Савецкім Саюзе, якая склалася пасля смерці Сталіна, у 1954 годзе былі зроблены першыя захады дзеля рэпатрыяцыі святара. Пасля доўгіх намаганняў у кастрычніку 1956 года а.Канстанцін атрымаў свабоду і дазвол на вяртанне. 13 кастрычніка ён вярнуўся на радзіму.

Пасля дзесяцігадовага знаходжання ў зняволенні стан здароўя а.К.Байко быў вельмі дрэнны: выконваць свае настаўніцкія і святарскія абавязкі ён ужо не мог, нягледзячы на сваё жаданне вярнуцца да дзяцей. Але прайшоў час, і ён зноў атрымаў кананічную місію на навучанне ў шасці сярэдніх школах Бельска, у тым ліку і ў Беларускім ліцэі. Ва ўспамінах тагачасных ягоных вучняў а Канстанцін паўстае добрым настаўнікам, высокакультурным і далікатным, а адзін з іх — Юрка Шрубак — вызначыў свой жыццёвы шлях дзякуючы менавіта ягонаму ўплыву і сёння набыў сусветную вядомасць як дырыжор царкоўных хораў.

Пасля вывядзення Закона Божага са школьнай праграмы ў 1963 годзе а.Канстанцін быў накіраваны для служэння на заходніх, пераважна каталіцкіх землях Польшчы. Там ён да самай смерці служыў у епархіяльным асяродку ў Цепліцах каля Зялёнай Гуры. І сёння наведвальнікі Дома апекі св.Стэфана ў Цепліцах могуць прачытаць там радкі: «Дом гэты з'яўляецца выказам удзячнасці айцу К.Байко за ягоную ахвярную працу ў Хрыстовай Царкве. Гэта — выказ пашаны, складзенай яго сіле стання ў мучаніцтве за веру».

Друкуецца паводле публікацыі: Даратэй Фёнік, Айцец Канстанцін Байко — прэфект бельскіх школ. Białoruskie Zeszyty Historyczne 2(2). Беласток, 1994.

**Падрыхтаваў У.ПАНАДА.**

*Алег НЕВЯРОЎСКІ*

# Каталіцкая царква на Беларусі і гісторыя нашага народа

Наша краіна спрадвеку была поліканфесійнай дзяржавай: праваслаўе, каталіцызм, уніяцтва, рэфарматарства, пратэстантызм тут знайшлі сваіх самых шчырых вернікаў. Не дзіўна, што пад гэтым уплывам фармавалася душа народа, ягоны менталітэт, развіваліся тыя рысы характару, якія зрабілі яго беларусамі. Адной з самых уплывовых пасля праваслаўнай з'яўляецца каталіцкая канфесія, ці рыма-каталіцкая.

**Каталіцкі клер складаўся з беларусаў**

Вернікі Рымска-каталіцкага касцёла складаюць на Беларусі досыць вялікую частку насельніцтва, некаторыя лічаць іх этнічнымі палякамі. На самай справе па нацыянальнаму складу пераважаюць беларусы, але ёсць палякі і жамойты. Агульная колькасць каталікоў перавышае 20 працэнтаў ад агульнай колькасці насельніцтва. Першыя звесткі пра з'яўленне каталіцкіх святароў на Беларусі датуюцца 1015 годам. Летапіс падае, што ў гэты год з'явіўся ў Тураве каталіцкі біскуп Рэйнберн, немец. Пры двары караля Міндоўга ў Навагрудку ў 1252 годзе быў біскуп Хрысціян, таксама немец.

Сам Міндоўг быў ахрышчаны ў лацінскім абрадзе і разам з ім хрысціліся 500 баярскіх родаў, амаль усе вышэйшыя станы тагачаснага грамадства Вялікага Княства ды, натуральна, і ніжэйшыя станы: шляхта, мяшчане і сяляне. У першай палове XIV стагоддзя сталіца ВКЛ пераносіцца з Навагрудка ў Вільню. У той жа час Вялікі князь Гедымін закладае там Францішканскі і Дамініканскі касцёлы з кляштарамі. У 1325 годзе быў пабудаваны касцёл св.Мікалая ў Вільні. У 1386 годзе Гедымінавы сыны — Вітаўт і Ягайла, кароль польскі, — заключаюць у Крэве дынастычную унію. Ужо ў 1387 годзе у м.Абольцы быў пабудаваны касцёл, а праз пяць гадоў — Фарны касцёл у Гародні, вядомы яшчэ як Вітаўтава Фара. Тады ж утвараецца Віленская Біскупская Курыя. Амаль увесь каталіцкі клер складаўся з беларусаў. Старабеларуская дзяржаўная мова ВКЛ загучала паўсюль па касцёлах. На ёй вялася дакументацыя Віленскай біскупскай капітулы.

Вялікі штуршок развіццю культуры ў Вялікім Княстве дало каталіцкае школьніцтва. У 1579 годзе ў Вільні з'явіліся айцы-езуіты, якія ў 1578 годзе заснавалі акадэмію, што складалася з трох факультэтаў: тэалагічнага, філасофскага і медыцынскага. (Гэтая акадэмія пазней ператварылася ва універсітэт — першы ва ўсходняй Еўропе.) Праз два гады быў заложаны езуіцкі калегіум у Полацку, першым рэктарам якога быў вядомы навуковец ксёндз Пётр Скарга. Крыху пазней узніклі калегіумы ў Нясвіжы, Гародні, Пінску, а ў XVII стагоддзі — і ў Менску.

Выкладанне ў калегіумах вялося на старабеларускай і лацінскай мовах. Выкладанцамі гэтых установ былі многія дзяржаўныя дзеячы ВКЛ. Школьніцтвам займаліся таксама айцы-дамініканe. Вышэйшая каталіцкая іерархія ВКЛ паддалася паланізацыі толькі ў другой палове XVII стагоддзя разам з працэсам паланізацыі магнатаў і буйной шляхты. Але і ў наступных стагоддзях знаходзіліся пасярод нашага народа ксяндзы, якія не выракліся беларускай мовы, ужывалі яе ў касцёлах, навучалі свой народ.

На канцы XVIII стагоддзя ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай Беларусь трапляе пад уладу Масквы. Пачынаецца самы цяжкі і складаны перыяд у беларускай гісторыі.

У ліку першых абрынуліся рэпрэсіі і на каталіцкі касцёл, але нават у гэтых жудасных умовах беларусы не скарыліся. На працягу XIX стагоддзя выбухаюць тры вызваленчыя паўстанні. За незалежнасць краю паўстаюць людзі розных станаў: магнаты, шляхта, мяшчане, сяляне. Паўстанцам дапамагаюць каталіцкія ксяндзы.

Паўстанні падаўляліся збройнай сілай і прыгнёт захопнікаў павялічваўся. Але і ў такіх складаных умовах ксяндзы-беларусы працягвалі беларускую каталіцкую справу: прамаўлялі казанні па-беларуску, катэхізавалі народ, навучалі дзяцей. Прыкладам можа служыць дзейнасць ксяндза Магнушэўскага ў мястэчку Крашын, дзе ён быў на пачатку XIX стагоддзя пробашчам. Адзін з яго выхаванцаў — першы беларускі паэт новае пары Паўлюк Багрым.

Асабліва цяжкі перыяд для каталіцкіх касцёлаў наступіў пасля ўдушэння паўстання 1863 года. Царскім загадам былі забаронены дзейнасць каталіцкіх манаскіх ордэнаў і публічныя набажэнствы па-за сценамі касцёла.

Расійскія ўлады пачалі адбіраць касцельную законную маёмасць і перадаваць яе пад свецкія ўстановы альбо Праваслаўнай царкве. Даволі вялікая колькасць святароў апынулася на паўлегальным становішчы. У такіх умовах касцёл на Беларусі існаваў амаль да лютаўскай 1917 г. рэвалюцыі ў Расіі, пры невялікім паслабленні каталікам царскім загадам 1906 г.

Пачатак XX ст. азнаменаваўся першым беларускім нацыянальным адраджэннем. Гэта час першай беларускай легальнай газеты «Наша Ніва», час замацавання новай беларускай літаратуры, паўстання першай беларускай палітычнай партыі, час такіх зорак нашай літаратуры, як Янка Купала, Якуб Колас, М.Багдановіч, М.Гарэцкі, А.Гарун. Гэтае адраджэнне не абмінала і каталіцкі касцёл. Шмат маладых беларусаў, пераважна з дробнай шляхты і сялянскіх дзяцей, пачуўшы голас Божага паклікання, пайшлі да семінарый, абраўшы шлях служэння Богу для дабра касцёла і бацькаўшчыны, свайго народа.

Ксёндз-біскуп Станіслаў Данісевіч, ксяндзы Будзька, Ф.Абрантовіч, В.Гадлеўскі, А.Станкевіч, А.Цікота, Я.Семашкевіч, Я.Германовіч, С.Глякоўскі, П.Татарыновіч — гэта толькі невялікая частка піянераў беларускага каталіцкага адраджэння. Усе яны былі выхаванцамі Каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу, адзінай тады вышэйшай каталіцкай установы ў Расійскай імперыі, дзе ў той час быў прафесарам вядомы дзеяч беларускага адраджэння Б.Эпімах-Шыпіла. Пасля расійскай лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. 24—25 траўня 1917 г. у Менску адбыўся з'езд ксяндзоў-беларусаў. У тым жа годзе паўстае першая беларуская каталіцкая партыя — Беларуская хрысціянская дэмакратыя, выходзіць газета «Беларуская крыніца» і часопіс «Хрысціянская думка». У 1918 г. у Менску адчыняецца каталіцкая духоўная семінарыя, рэктарам якой стаў святар Фабіян Абрантовіч.

*(Працяг у наступным выпуску «Веруем».)*

***Што для мяне малітва?***

# Адказнасць перад Богам

Малітва ў маім жыцці? Хачу, каб была чымсьці з спраў асноўных, першапланавых, абавязковых спраў. Хацела б, каб маё жыццё было малітвай. Пакуль выказваю толькі жаданне. У вырашэнні значэння малітвы ў маім жыцці прачуваю яшчэ мноства аспектаў, якіх яшчэ не ўяўляю і мяркую: рэлігійная падрыхтоўка ці, магчыма, больш набліжэнне да Бога ўзнікае вынікам адкрыцця таго чагосьці ў малітве, што для кожнага чалавека з'яўляецца ягоным уласным і сама істотным дасягненнем, вынікам, набыткам.

У свае маладыя гады малілася інакш, чым раблю гэта цяпер. Даўней мая малітва была толькі просьбай чаго-небудзь дзеля мяне. Я была такой палымянай, поўнай веры, такой настойлівай, што мая малітва давала вынікі, прыкладам, калі прасіла Бога, каб мяне не вывезлі на работу. А пасля малітва напоўнілася ўдзячнасцю і перакананнем непасрэднага пранікнення Бога ў маё жыццё. Ці ж можна было не маліцца?

Памятаю таксама тое цудоўнае прачуццё, якое дае адчуць Бог, калі малітва станавілася размовай з Богам. Было гэта Яго ласкай.

Да «адкрыцця» малітвы даходзіла вакольным шляхам. З навалы работы і спраў, што пахланялі цалкам незваротны і адзіны час, дадзены мне на жыццё, вылучылася неспакойнае пытанне пра сэнс майго жыцця. Пачала непакоіцца, што, нягледзячы на мае дасягненні, здабытыя вучобай, навуковай і лекарскай працай, маё жыццё ці тое, што яго напаўняе, не мае сэнсу. Мяркую, што такога неспакою пазнае кожны чалавек, што за гэтым ідзе неадлучнае пачуццё адказнасці перад Богам за сваё адзінае і дадзенае толькі раз жыццё.

Калі ж пасля зразумела: сэнс майму жыццю магу надаць толькі праз любоў, аказалася, што не ўмею яе рэалізаваць у паўсядзённым жыцці. Што горш, доўга, вельмі доўга не ведала, што такое любоў. Магчыма, не ведаю яшчэ і цяпер, але маю ўражанне, што нешта з таго вялікага Бог мне паказаў. Малілася ж за любоў. Пільна шукала, слухала, чакала слоў любові. Уяўлялася мне, што пра гэта мала гавораць у бажніцы, па-за ёю.

Магло б падацца, што ніхто не можа рэалізаваць любоў лягчэй за доктара. А я, доктар, не ведала, ці яна існуе. Разуменне прыйшло само, з промнем ласкі падчас малітвы. У святле гэтай ласкі зразумела штосьці вельмі простае, менавіта: любіць — гэта аддаць сябе.

Так- учыніў Езус. А столькі гадоў праходзіла ўзбоч гэтай Езусавай праўды як сляпая. Праўда гэтая аднак жа — адна з найцяжэйшых. Што праўда, яна ад таго моманту стала маёй уласнай, але як яе рэалізаваць штодня? Як тое, што раблю паўсядзённа, павінна вынікаць з любові, а не толькі з неабходнасці выканання абавязку, ад страху за адказнасць перад судом, кіраўніком ці грамадскай думкай. Не, у паўсядзённым жыцці не ўмею адорваць любоўю. Не маю дастаткова адвагі і, відаць, буду гэтаму вучыцца да смерці. Затое падалося мне працсей зрэалізаваць любоў праз малітву. І зноў мая малітва станавілася просьбай, але ўжо не дзеля мяне. З іншай вышыні звяртаюся да Бога з надзеяй, што праз Яго буду чыніць тое, чаго сама не ўмею. Падчас маіх развагаў зразумела і адчула, якой вялікай ласкай і скарбам ёсць тое, што веру, што маю Бога, што ніколі не самотная, што заўсёды маю да каго звярнуцца. І хацела б, каб усе людзі, што не вераць, не ведаюць Бога ці перасталі верыць, верылі. За іх жа перш за ўсё малюся, рэалізуючы маю любоў.

Хацела б маліцца так шчыра, з вераю і так аддана, каб Бог малітву маю пачуў, як тады, у вайну. Выказваю такое жаданне, бо ведаю, што малюся кепска. Малітвы на памяць не ведаю. Малюся часта ўласнымі словамі, асабліва пасля прычасця, але часам мне не хапае патрэбнага засяроджання, каб малітва сталася размовай, хвалой, падзякай Богу.

...Папраўдзе кажучы, мне, як і іншым, працсей хваліць Бога дзесь на ўлонні прыроды, па-над возерам ці ў гарах, чымся тады, калі глядзіш на гнойную рану, але ў гэтым другім выпадку ўсведамленне недаўгавечнасці чалавечага жыцця тым больш кіруе маю думку да Таго, хто вечны.

**Жанчына, адукацыя вышэйшая, жыве ў вялікім горадзе.**

**(Перадрук з кнігі «Безіменныя гавораць пра малітву».)**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# Кола сям'і

## *У нашай хаце свята*

*Шаноўныя сябры!*

*Цяпер нам не так часта даводзіцца перажываць адчуванне сапраўднага свята. Тым не менш святы застаюцца — у першую чаргу тыя, якія мы па традыцыі святкуем у сямейным коле: Новы Год, Каляды, дні нараджэння... Кожны ладзіць іх, як умее. А між тым, калі ў сям'і растуць дзеці, хатнія святы павінны быць не проста абавязковымі — яны павінны быць яркімі, запамінальнымі, нацыянальна адметнымі. На практыцы, на жаль, усё зводзіцца або да банальнай п'янкі дарослых, падчас якой дзіця, атрымаўшы падарункі, робіцца лішнім, або, у лепшым выпадку, для дзяцей учыняюць «салодкі стол» і... прадастаўляюць іх самім сабе. Хаця, нават у самым нястачным матэрыяльным становішчы сям'і, свята можна зрабіць сапраўдным — для гэтага патрэбна толькі трохі энтузіязму, фантазія і... любоў. Прапаную чытачам «Нашага слова» пазнаёміцца са сцэнарыямі хатніх святаў, якія праводзіліся ў нашай сям'і, у сем'ях нашых знаёмых. Я раскажу, як падрыхтаваць элементарныя «аксесуары» для правядзення гульняў, дзе трэба — будуць прыкладацца чарцяжы. Сцэнары гэтыя не з'яўляюцца нечым непарушным, іх можна трансфармаваць у залежнасці ад умоў кожнай канкрэтнай сям'і. Разлічаны яны на дзяцей 5—8-гадовага ўзросту і нават старэйшага... Ну, і, зразумела, дарослых. Паверце, што вашаму дзіцяці будзе нашмат каштоўней атрымаць ад вас сапраўднае дзіцячае свята, чым найшыкоўную ляльку Барбі.*

*Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.*

## «Веснавыя ключыкі»

### Як правесці дзень нараджэння

Запрасіце ў госці да свайго дзіцяці яго сяброў. Падрыхтуйце для кожнага запрошанага прыгожы «нагрудны знак» з выявай любога казачнага героя або звера і цікавым надпісам, напрыклад: «Пакацігарошак», «Крыважэрны Цмок», «Воўк-Адзінец», «Магутны Зубр», «Асілак Машэка» і інш (гл. мал. 2). Гэта будуць «імёны дружыннікаў». Правадыром «дружыны» прызначаецца той, чый дзень нараджэння святкуецца. Увогуле вазьміце зазвычай заўсёды рыхтаваць для дзяцей падобныя «сувеніры», няхай самыя немудрагелістыя, каб яны маглі захаваць іх на памяць пра свята. Падрыхтуйце сем ключоў, напрыклад, ад шафаў; некалькі слайдаў (малюнкаў) з рэпрадукцыямі вядомых твораў мастацтва (выявамі жывёлаў, кветак). Спатрэбіцца татаў капялюш, шалік, паднос, «вудачка»-палка, да канца якой на нітцы прывязаная разагнутая сашчэпка-«кручок» (гл. мал. 1). Калі тата ці мама крыху ўмеюць маляваць, на лістах паперы малююцца казачныя героі з адтулінамі на месцах твару, каб туды праходзіў твар дзіцяці (мал. 3).

Мал. 1

Перад самым прыходам гасцей вазьміце доўгую нітку, канец прывяжыце да ручкі дзвярэй вольнага пакоя і працягніце гэтую нітку, выбіраючы «цікавы» маршрут пад крэсламі, над канапай і г.д. Другі канец ніткі прывяжыце да аднаго з падрыхтаваных ключоў і схавайце. Калі маеце магчымасць, накрыйце для дзяцей стол з салодкімі стравамі ў асобным пакоі, калі не — схавайце святочны торт у шуфлядзе шафы ці пад любой імправізаванай «завалай».

Калі госці прыйдуць, бацькоў пасадзіце так, каб яны маглі выконваць ролю гледачоў. Прастора пасярод пакоя павінна быць вольная.

**Вядучая**. Дзень добры, дзеці! Сёння мы святкуем дзень нараджэння Веранічкі. Але свята ў нас атрымаецца незвычайнае. Хаця зараз у нас на двары вясна (лета), але злая чараўніца Зіма



Мал. 2

не захацела адлятаць на поўнач, яна хаваецца пад зямлёй, там, адкуль цякуць халодныя крыніцы, і працягвае нам шкодзіць. Яна, даведаўшыся, што ў нас вясёлае свята, і для гасцей падрыхтаваны смачны торт, і на ім запаляць свечкі, замкнула наш торт, як замыкала снегам і лёдам зямлю. У нас, на Беларусі, нават ёсць такі веснавы абрад — адмыканне зямлі. Людзі станавіліся на пагоркі і гукалі адзін аднаму:

— Іван, дай ключы!
— Мар'я, дай ключы!
— Адамкні Зямліцу!
— Выпусці травіцу!

Вось і нам, каб адамкнуць гэтыя дзверы, трэба знайсці сем ключыкаў. А шукаць іх будзеце вы (дзеці-госці) — сёння вы будзеце дружыннікамі, а правадыром дружыны прызначаецца Веранічка.


Мал. 3

**Вядучая прапаноўвае дзецям выцягнуць сабе наўгад нагрудны знак і запомніць сваё казачнае імя. Знакі прышпільваюцца.**

**Вядучая**. Першае выпрабаванне. Самы спрытны дружыннік мусіць узяцца за гэты канец ніткі (прывязаны да ручкі дзвярэй) і прайсці-прапаўзці, трымаючыся яе, да самага канца. Гэта не нітка, а чароўная павуцінка, якую пакінуў нам залаты павучок. Дзе павуцінка скончыцца, там Зіма схавала першы ключык.

**Абраны дружыннік выконвае заданне.**

Малайчына, Асілак Машэка! Вось наш першы ключык! А цяпер наступнае заданне — пакажам злой чараўніцы Зіме, якія мы разумныя! Яна схавала другі ключык пад адной з карцін сваёй галерэі. Але карціну мы зможам зняць, толькі назваўшы, хто яе намаляваў і як яна называецца. Дазваляецца браць падказкі ў бацькоў.

**Вядучая паказвае слайды (або карцінкі). Калі дзеці не могуць адказаць, пытаецца, хто пойдзе да сваіх бацькоў за падказкай. Агульнымі намаганнямі ўсе карціны мусяць быць названыя. Для таго каб зрабіць заданне больш лёгкім, можна выкарыстаць малюнкі звяроў, птушак, кветак і да т.п.**

**Вядучая**. Малайцы! Паглядзіце — за апошняй названай карцінай мы знайшлі ключык! А наступны ключ Зіма ўкінула ў халодную крыніцу. Яго трэба вылавіць вудачкай.

**Да ключа прымацоўваецца сашчэпка або любая пятля, за якую яго можна падчапіць. Дзеці па чарзе бяруць «вудачку» і спрабуюць «вылавіць» ключ. Нарэшце некаму гэта ўдаецца.**

**Вядучая**. Вось малайчына Воўк-Адзінец! Цяпер у нас тры ключы, і мы яшчэ далей пранікаем у царства Зімы, да нашага замкнёнага торціка. Наступны ключ Зіма схавала так, што яго можна ўзяць, толькі сказаўшы чароўныя словы. Зіма запісала іх на ледзяной падземнай гары, але лёд пачаў раставаць, і засталіся толькі першыя радкі замоваў. А можа, вы здолееце адгадаць словы, якія зніклі? Я кажу вам першыя радкі, а вы працягвайце. Таксама дазваляецца браць падказкі ў бацькоў.

«Бегаў Бай па сцяне...
**(Дзеці працягваюць: «У чырвоным каптане...**
**Баіць ці не?..»)**
«Горкай, горкай, горачкай...»
**(Ішоў малы Ягорачка,**
**Ваўкоў не баяўся,**
**Страхаў не пужаўся...»)**
«Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку маломў...
**(Кліча яго рэчка,**
**Цягнуць санкі з дому...»)**
«Коцік басаногі...
**(Па сняжку гуляў,**
**Адмарозіў лапкі**
**І заплакаў: «Мяў!»)**
«Ішлі Тодар з Тадораю...
**(Найшлі лапаць з абораю.**
**Гаворыць Тадор Тадоры:**
**табе лапаць, мне абора...»)**

**Вершы могуць вар'іравацца. Выбірайце тыя, якія добра ведае ваша дзіця.**

**Вядучая**. Малайцы! Ад вашых замоваў ледзяная гара зусім растала, і нам застаўся яшчэ адзін ключык. Колькі іх цяпер у нас?

**Дзеці**. Чатыры!

**Вядучая**. А колькі нам яшчэ засталося знайсці?

**Дзеці**. Тры!

*(Працяг у наступным нумары.)*

## *Не піў бы, не еў бы...*

## Лад у сям'і

Калі чытаеш зборнікі народнай мудрасці, то кідаецца ў вочы, што ў іх колькасна па-рознаму згаданы асобы, аднолькавыя па ступені сваяцтва: дзед і баба, муж і жонка, брат і сястра? Тут свае прычыны. Першая. Слова «баба» ўжываецца не толькі як назва сем'яніна, бацькавай маці, а і проста як назва старой жанчыны *(Для старой бабы і на печы ўхабы)*, варажбіткі *(Тады бабка варажыць стала, як хлеба не стала)*, павітухі *(Пагадзі радзіць, дай па бабку схадзіць)*. Другая. Слова «муж» для беларускага фальклору не характэрна. У нас пераважае слова «гаспадар» *(Без гаспадара жонка заўсёды сірата. Гаспадар і баба — адна рада)*. Трэцяя. Слова «брат» часта ўжываецца ў форме звароту да субяседніка або паказвае сінанімічнасць двух нейкіх паняццяў *(Бургамістр і кат — адзін аднаму брат. Не смейся, брат, будзеш сам салдат. Не свой брат — не скажаш: пасунься)*.

Дык аб чым жа гавораць прыказкі і прымаўкі? Найбольш выразна ў іх акрэслена адмоўнае станаўленне да шлюбу не па каханню, а з разліку разбагацець, узяўшы за жонкай вялікі пасаг: *Багатаму за жонку хоць свінка, абы грошай асмінка. Не тое багацце, што цесць з цешчаю далі, а тое, што маладыя самі нажылі.*

Вядома, усхваляюцца шчаслівыя шлюбы. Добра, калі ў мужа і жонкі аднолькавыя характары, калі яны аднолькава дбаюць пра заўтрашні дзень, рыхтуюцца да таго часу, калі ў сям'і з'явяцца дзеці:

*Не піў бы, не еў бы — на жонку глядзеў бы. Як баба да дзеда, так і дзед да бабы. Дзе кросны, там жонкам млосна.*

Калі ж няма такога адзінства ў поглядах і дзеяннях, узаемаразумення, справы ў такой сям'і ідуць дрэнна, узнікаюць канфлікты, пануе няшчырасць, неспрыяльны, як мы цяпер сказалі б, мікраклімат:

*Гаспадар у карчме п'е і скача, а гаспадыня плача. Жонка не бот — не скінеш. Не глядзі на чужых жонак: ці скасееш, ці здурнееш. Чым я мужу не жана, чым не гаспадыня: тры дні хату не мяла, у печы не тапіла.*

Пагаршаецца становішча сям'і, калі яна няпоўная, калі часова адсутнічае гаспадар:

*Бацька ў салдатах, а ў дзяцей латкі на латах. Сячы бабка дровы — няма мужа дома.*

*(Працяг будзе.)*

**Сабраў Васіль ТУРКЕВІЧ,**
**настаўнік Моладаўскай сярэдняй школы.**

## *Здароўе*

*Таццяна ФАМІНА,*
*кандыдат медыцынскіх навук*

## «Мне блага!»

### (Сасудзістыя крызы)

Чалавек раптам адчуў, што яму стала дрэнна. Ён хапаецца за галаву, трэ рукой левую частку грудзей, але гэта не дапамагае. Ён пачынае корпацца ў торбе ці ў шуфлядзе, шукаючы патрэбныя лекі, а то і скажа: « Ой, мне блага!». Родныя ці калегі па працы, глянуўшы на яго, заўважаюць, што чалавек раптам змяніўся з твару. Такі стан дактары называюць крызам. Гэтым тэрмінам пазначаюць прыступ — з'яўленне першых прыкмет хваробы або ўзмацненне яе сімптомаў.

Найбольш частыя — сасудзістыя крызы, якія праяўляюцца часовым парушэннем функцыі мазгоў у выніку парушэння мазгавога кровазвароту.

### 1. Гіпертанічны крыз у асобаў, якія маюць павышаны крывяны ціск

Ён праяўляецца звычайна раптоўным, рэзкім болем галавы. Пагаршэнне стану асобаў з павышаным ціскам — вынік папярэдняга стану хворага, калі адчуваўся боль у тыльнай частцы галавы, кружэнне галавы, боль у сэрцы, а да таго ж з нейкай нагоды хваляваўся, нерваваўся. Калі ў такім стане памераць ціск, то ўбачым, што ён вышэй звычайнага, «нармальнага» для хворага. (Верагодны прыступы і на фоне папярэдняга здавальняючага самапачування.)

Сасудзісты крыз праяўляецца так: адчуваецца боль у галаве, гул ці звон увушшу, кружыцца галава, чырванее твар, чалавека пачынае нудзіць, вочы засціць туман, уваччу пачынаюць мігцець «чорныя кропкі», насіляецца боль у сэрцы, пульс становіцца больш частым.

#### Дапамога

Калі дакладна вядома, што хворы мучаўся ад павышанага крывянога ціску, ужываў лекі дзеля яго паніжэння, то неабходна пакласці хворага ў ложак або на канапу так, каб галава і плечы былі вышэй тулава. Неабходна адчыніць акно ці фортку, даць хвораму адпаведнае лякарства, што паніжае ціск і якое ўжываў хворы. Калі ж такога няма, то можна скарыстаць таблетку ад болю галавы, а таксама валідол (пад язык). Пажадана паставіць хвораму гарчычнікі на так званую каўняровую частку спіны (гэта — плечы да лапатак), але не на хрыбетнік ды на грудзі. Памагаючы хвораму, вельмі важна ўвесь час запэўніваць яго, што гэты стан — часовы, што ён хутка міне і хворы пачуецца лепей, што ён, пасля таго, як прыняў лекі, выглядае лепш.

Але перш за ўсё — пашліце каго-небудзь выклікаць «хуткую дапамогу». Ні ў якім разе не вядзіце хворага ў паліклініку ці ў амбулаторыю, бо па дарозе яму можа стаць горш і можа надарыцца кровазліццё ў мазгі.

### 2. Гіпатанічны крыз у асобаў, якія маюць паніжаны крывяны ціск

Рэзкае пагаршэнне стану такіх хворых узнікае як вынік далейшага паніжэння ціску. Хворы адчувае слабасць, шум увушшу, боль і кружэнне галавы, боль у сэрцы, запаволены яго рытм і паслаблены пульс, перад вачыма мігцяць «чорныя кропкі», твар бялее, дрыжаць пальцы.

#### Дапамога

Пакладзіце хворага так, каб яго ногі былі вышэй галавы — такім чынам палепшыцца прыток крыві да галавы і забеспячэнне мазгоў кіслародам ва ўмовах парушэння мазгавога кровазвароту. Дайце хвораму выпіць шклянку моцнага чаю або кавы. Калі ёсць кроплі кардамону, наліце чайную лыжачку і дайце хвораму. Калі хворы скардзіцца на моцны боль у галаве, можна яму даць таблетку аскафену, кафетаміну, трайчаткі. Пакуль чакаеце «хуткую», можна даць хвораму падыхаць нашатыр, накапаны на ватку, пацерці ім лоб і скроні хворага.

### Вага-інсулярны крыз

Вага-інсулярны крыз пачынаецца з адчування, што да твару «прылівае» жар, твар чырванее, чалавеку не хапае паветра, ён слабее, пацее. У галаве ўзнікае боль, галава кружыцца, увушшу шуміць, сэрца нібы замірае. Адначасова яго нудзіць, у жываце бурчыць, жывот уздуваецца, хворы часта мочыцца, часам пачынаюць дрыжаць мышцы. Калі замераць крывяны ціск, то ён будзе паніжаны (але можа быць і нармальны), пульс слабы, часам запаволены. Пасля прыступу на працягу гадзіны-другой адчуваецца слабасць, боль у сэрцы, крывяны ціск паніжаны, хворы пацее. Такі стан працягваецца некалькі гадзін і нават сутак. У кожнага хворага вага-інсулярны крыз мае пэўныя асаблівасці, але гэта, як правіла, вынік неўрастэніі, парушэння функцыяў цэнтральнай нервовай сістэмы, ваганняў крывянога ціску, парушэння дзейнасці залозаў і рэчыўнага абмену, а таксама і сардэчнай дзейнасці.

#### Дапамога

Пакладзіце хворага, супакойце яго. Наліце чайную лыжку кардаміну (элеўтэракока, кропель Зяленіна) і дайце выпіць хвораму. Лоб і скроні патрыце нашатырным спіртам і дайце хвораму падыхаць ім. Калі ж хворы адчувае слабасць, пацее ды ў яго дрыжаць мышцы, то дайце яму шклянку моцнага салодкага чаю, цукерку або цукру. Калі хворы скардзіцца на боль галавы, дайце яму таблетку аскафену,пенталгіну, а калі кружыцца галава ды выдзяляецца шмат сліны, то трэба даць хвораму таблетку аэрону. І, вядома, неабходна выклікаць «хуткую дапамогу».

Вучымся

Культура мовы

Павел СЦЯЦКО

# Далей, цяплей

**Далей, цяплей** — а не падалей, пацяплей. *Падарожніца загадала фурману ад'ехаць падалей і здалёк назірала за бойкай* («Дон Кіхот». Пераклад з іспанскай мовы Якуба Лапаткі. — «Наша слова», 1995, № 6). *Сёння ўдзень будзе 2—5 градусаў марозу, моцны вецер. Таму раім бацькам адзець сваіх школьнікаў пацяплей* (Беларускае радыё. 1-я праграма. 13 сакавіка 1995 года. 7 гадзін раніцы).

Ці беларускія гэта формы — *падалей, пацяплей?* Прыстаўкавыя ўтварэнні ( з прэфіксам *па-*) прыслоўяў вышэйшай ступені беларускай літаратурнай мове неўласцівыя. Расійскія формы *подальше* і пад. перакладаюцца на беларускую мову беспрыстаўкавымі прыслоўямі вышэйшай ступені ці формамі найвышэйшай ступені. Так, у «Русско-белорусском словаре» пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (1953, с. 431, 437) бачым: «**Побольше** срав. ст. нареч. (трохі) больш, (трохі) болей; (как можно больше), (як мага) больш, (як мага) болей; як найбольш, як найболей; **Подальше** сравн. (трохі) далей; (как можно дальше) (як мага) далей; як найдалей; подальше от соблазна — (як мага) далей ад спакусы». Двухтомавае яго перавыданне таксама падае: «**Подальше** сравн. ст. (трохі) далей. **Побольше** ср. ст. (трохі) больш, (трохі) болей (Мн., 1982, т. 2, с. 87, 77). І ў трохтомавым выданні 1993 года (т. 3, с. 581) чытаем: «**Подальше** (трохі) далей; подальше от соблазна — (як мага) далей ад спакусы».

І іншыя расійскія прыстаўкавыя формы вышэйшай ступені маюць у беларускай мове такія самыя адпаведнікі: «**Побыстрее** (поскорее) (трохі) шпарчэй; (трохі) хутчэй; (как можно быстрее) (як мага) шпарчэй, як найшпарчэй; (як мага) хутчэй, як найхутчэй (т. 3, 1993, с. 566); **поглубже** (трохі) глыбей; **Поглупее** (трохі) дурней (тамсама, с. 576); **Повыше** (трохі) вышэй; подыми повыше — падымі вышэй (с. 574)».

Здзіўляе, што гэтае заканамернасці не адчуваюць стыльрэдактары некаторых нашых выдавецтваў, асобныя пісьменнікі, аўтары допісаў. У выніку замест беларускіх словаў бачым неўласцівыя нашай мове формы, механічна перанесеныя з расійскай мовы. А потым, пры складанні картатэкі для новых слоўнікаў, гэтыя памылковыя формы выпісваюцца, такім чынам «узаконьваюцца», трапляюць на старонкі слоўнікаў. Так, у двухтомавым «Беларуска-рускім слоўніку» пад рэдакцыяй К.Крапівы (т. 2, Мн., 1989, с. 15, 34) да расійскіх формаў з прыстаўкаю **по-** бачым і ў беларускай частцы даведніка словы з прэфіксам **па-**. «**Паболей** нареч. побольше і *пабольш* нареч. побольше». «**Падалей** нареч. подальше; падалей (далей) ад граху (бяды) — подальше от греха».

Недарэчнасць пераносу гэтакіх формаў у беларускую мову відаць і з таго, што ў расійскай мове яны маюць два значэнні: значэнне прыслоўя вышэйшай ступені і значэнне прыметніка вышэйшай ступені. Беларуская мова такіх аманімічных формаў не мае. І гэта відаць нават з перакладных слоўнікаў: «Поглубже сравн. ст. 1. нареч. (трохі) глыбей; опускай поглубже — апускай глыбей; 2. прил. (трохі) глыбейшы; тот ручей поглубже — той ручай глыбейшы» («Русско-белорусский словарь», 1993 г., т. 3, с. 576). «Подальше сравн. ст. 1. нареч. (трохі) далей; 2. прил. (трохі) далейшы (тамсама, с. 581)».

Як людзі кажуць

# Ці не зубожваем?..

У гэтай рубрыцы ( «Наша слова», №14) я надрукаваў артыкул, у якім дазволіў сабе сказаць пра немэтазгоднасць ужывання некаторых слоў-калек, прыкладам, *абавязаць, многае,* ды заўважыўшы, што яны не толькі зубожваюць нашу мову, але і пустошаць нашы душы.

Нам напісала настаўніца Н.Шаблыка з вёскі Кублічы: «Прачытала артыкул « Ад сэрца » П.Пашкаўца і зрабілася ніякавата. Здаецца, думкі харошыя, слушныя, лагічна завершаныя, аднак жа адчуваецца ўплыў ці то рускай мовы, ці то рэгіянальнай народнай гаворкі, ці то проста жаданне паказаць сваё».

Так, слушная заўвага — я стараўся паказаць сваё, роднае, беларускае слова, выпешчанае нашымі людзьмі.

Спадарыня Шаплыка папракнула мяне, што слова «зубожванне» — штучнае. Але ж не! Дастаткова паглядзець «Беларуска-расійскі слоўнік» М.Байкова і С.Некрашэвіча (Менск, 1926), што нядаўна перавыдадзены (26 000 кніжак!). Там на старонках 318 і 319 чытаем: «*убогі — бедный, нищий... Убожыць* (каго) — *доводить до нищеты*». Могуць сказаць: «Тыя беларусізатары 20-х гадоў маглі немаведама што прыдумаць». Паглядзім яшчэ дзе-небудзь. Як для каго, а для мяне аўтарытэт — І.І.Насовіч. У ягоным «Слоўніку беларускай мовы» таксама знаходзім шэраг словаў з коранем *-убог-*: *Убогая* (Нищая. Убогую падарыце!); *Убогі* (Бедный. *У нашага пана ўвесь убогій народ*); *Убожыць, субожыць* (Доводить до крайности, разорять. *Субожыў нас пан, аднімаючы паследнюю кароўку на падатак*); *Убожыцца, субожыцца* (*Не субожышся, калі нам гарэлкі купіш).*

Варта заглянуць і глыбей. Знакаміты аршанскі стараста Філон Кміта-Чарнабыльскі, вядомы ўжо нашым чытачам з цытаваных у «Практычнай стылістыцы» ягоных допісаў, таксама ведаў гэтае слоўца. «Месяца марца 3 дня, року 1574» ён напісаў ліст «Валяр'яну Пратасевічу, біскупу Віленскаму», дзе скардзіцца: «Только тое, мілосцівый государю, рачце мілосціве обачыць, дзе мене так **убогого**, недостаточного слугі государского і вашей мілосці, на тое ставаці может, абым **убогую** маетносцію моею, пры тых граніцах мешкаючы, тые всі панства закладаці і опатроваці **убозством** своім на таковые потребы мог і до тых далекіх панств посылкаю, што ме, слугі вашой мілосці, коштует?» Каб дакладней зразумець сэнс гэтай Кмітавай скаргі, скароцім яе ды адлучым адпаведныя таму часу звароты і заменім сучаснымі словамі некаторыя архаізмы — «Толькі пажадайце обачыць, дзе мяне ўбогага на тое стаць, тыя ўсе патрэбы забяспечыць». (Кміта вымушаны быў прымаць усіх падарожных, пасольствы, забяспечваць іх правіянтам, апроч таго, рэгулярна паведамляць у Вільню і Кракаў пра ўсе навіны «о готовносці непрыяцельской» і звесткі «шпегаў».)

Як бачыце, шаноўная спадарыня Шаблыка, С.М.Грабчыкаў у «РБС'е» не падаў беларускага слова, якое вядома нашаму люду сама меней 400 (чатырыста!) гадоў. Такі прыклад, відаць, нельга назваць зубожваннем нашай мовы. Але іх(прыкладаў) шмат. Ці паўплывалі яны на лёс нашай мовы? Мяркую, што паўплывалі! (Але я асабіста перакананы: зубожванне нашай лексікі заважыла на лёсе нашай мовы — мела важкія, грунтоўныя (на жаль, адмоўныя!) вынікі — нашу мову сталі называць мешанінай расійскіх і польскіх словаў. Вось і мяне папракаюць, што я паддаўся ўплывам расійскай мовы, а я ж спрабаваў толькі наша забытае слова вярнуць з нябыту.

**Пётра ПАШКАВЕЦ.**

ACADEMIA «NS»

Гісторыя моваў на Беларусі

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Беларуская мова

*(Працяг.)*

*«Пераклад рэлігійных кніг непасрэдна са старажытнаяўрэйскай мовы на беларускую без пасрэдніцтва прамежкавых рэдакцый належыць да ліку з'яў, якія не маюць аналага ў гісторыі біблейскіх тэкстаў у сярэдневяковай Еўропе».*

**Аркадзь Жураўскі. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы.**

## Беларуская мова – мова міжэтнічных зносінаў

Услед або нават аднначасова з першымі перакладамі рэлігійных некананічных тэкстаў на беларускую мову пачалі з'яўляцца і першыя пераклады на гэтую мову **кананічных** кніг. Яны сабраныя ў двух рукапісных зборніках — №262 бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай рэспублікі і №558 Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве. Значная частка зборніка №262 напісана на царкоўнаславянскай мове з прыкметнай прымессю моўных сродкаў беларускай мовы. У перакладзе на беларускую мову тут змешчаныя біблейскія кнігі Іоў, Руф, Песня песняў, Эклезіяст, Прыпавесці Саламонавы, Плач Ераміі, Кніга Даніїла прарока і Эсфір. У зборніку №558 змешчаны беларускі пераклад Песні песняў. Старэйшы беларускі мовазнавец Яўхім Карскі ўстанавіў, што кнігі зборніка №262 былі перакладзены са

The Five Biblical Scrolls in a Sixteenth-Century Jewish Translation into Belorussian

(Vilnius Codex 262)

with Introduction and Notes by

MOSHÉ ALTBAUER





Jerusalem 1992

The Israel Academy of Sciences and Humanities

старажытнаяўрэйскай мовы ў пачатку XVI ст. На яўрэйскі арыгінал указвае **парадак** размяшчэння гэтых кніг і іх тэкстуальная блізкасць да яўрэйскай рэдакцыі Бібліі — Танаха, а таксама яўрэйская форма некаторых уласных і нават агульных імёнаў. **Гэты факт мае выключнае значэнне для гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Ён сведчыць пра тое, што мова карэннага насельніцтва Беларусі ў разглядаемы перыяд дасягнула такога ўзроўню свайго развіцця і такога аўтарытэту ў грамадстве, што магла быць прыраўнянай да адной з старажытнейшых моў свету — старажытнаяўрэйскай,** на якой два тысячагоддзі таму была напісана Біблія — кніга кніг свету. Гэта адбылося таму, што яўрэі ў Вялікім Княстве Літоўскім, як і татары, жывучы сярод беларусаў, сталі траціць сваю літургічную моўную кампетэнцыю на карысць беларускай мовы, што і прымусіла іх перакладаць на гэтую, зразумелую усім жыхарам княства мову міжэтнічных зносін свае рэлігійныя кнігі. Нядаўна зборнік №262 быў выдадзены ў Ізраілі як сведчанне векавых культурных сувязяў беларускага і яўрэйскага народаў, і пасол Ізраіля ў Рэспубліцы Беларусь Эліяху Валк урачыста ўручыў экземпляр гэтага выдання загадчыку Скарынаўскага навукова-даследчага цэнтра ў Менску прафесару Адаму Мальдзісу.

Чэшскі даследчык А.Фляроўскі даказаў, што зборнік №558 узнік у сярэдзіне XV — пачатку XVI ст., г.зн. да выхаду ў свет выданняў Скарыны (у мове зборніка няма слядоў уплыву мовы гэтых выданняў). Вучоны ўстанавіў таксама, што змешчаныя ў зборніку тэксты перакладзены з нейкага чэшскага арыгінала, аб чым сведчаць папраўкі, зробленыя, відаць, рукой чэха (або славака), які праз гэтыя папраўкі пакінуў у зборніку сляды сваёй мовы. Такі ранні час з'яўлення перакладаў кананічных кніг, змешчаных у гэтым зборніку, ды заходнеславянскае пасрэдніцтва перакладаў сведчыць пра несумненны ўплыў лацінска-заходнеславянскай моўнай сітуацыі — лацінска-славянскага двухмоўя на трансфармацыю ў гэтую больш прагрэсіўную сітуацыю існаваўшай на Беларусі дагэтуль сітуацыі дыгласіі. (Двухмоўе — калі мовы могуць ужывацца ў адной і той жа сферы; дыгласія — калі мовы функцыянальна размеркаваны: царкоўнаславянская ўжываецца дзеля богаслужэння, а беларуская мова абслугоўвае свецкія сферы грамадскага жыцця.)

Беларускія пераклады, змешчаныя ў згаданых зборніках, адрозніваюцца паміж сабой паўднёваславянскімі (у зборніку №262) і заходнеславянскімі (у зборніку №558) моўнымі элементамі. Яны, такім чынам, увасабляюць сабой два магчымыя шляхі развіцця старабеларускай літаратурнай мовы пасля ўсталявання сітуацыі двухмоўя ў нашым краі. Вось як па-рознаму перакладаюцца ў змешчаных у зборніках перакладах адной і той жа біблейскай кнігі — Песні песняў (пераклады суадносных слоў выдзелены): «отвечалъ милостникъ мой и **реклъ** мне въстань собе **подруго** моя краснице моя поиди собе: иже **а се** зима **прошла** а дождъ отменилъся и пошолъ собе: цветы указалисе по земли а часъ жатвы приспелъ а гласъ горлицы слышан въ




земли нашой» (Зб.№262); «милыи мои **мовил** ко мне въстан поспеши с **пріетелко** моя, милая, голубичко моя красная а поиди **бо оуже** зима **поминоула**. превалъ лютости отшол и отступил. **кветіе** оуказалос оу нашои земли. час обрезываніа винниць. оужо ес пришелъ **голос** горъличинъ слышан ес въ земли нашои » (Зб.№558).

Перакладчыкі зборніка №262 арыентаваліся на мову свецкай пісьменнасці свайго часу. Акрамя старажытнаяўрэйскага, яны мелі яшчэ і царкоўнаславянскі тэкст Бібліі. Трэба сказаць, што **яны надзвычай добра арыентаваліся ў нормах старабеларускай свецкай пісьменнасці,** аб чым сведчаць суадносіны архаічных (царкоўнаславянскіх) і новых (беларускіх) элементаў у перакладах. У адрозненне ад беларускіх пісцоў свайго часу перакладчыкі імкнуліся строга прытрымлівацца гэтых нормаў. Тут ужываюцца літары юс вялікі, яць (паслядоўна), трывала захоўваецца абазначэнне мяккасці **шыпячых, р і ц** (*мужь, ночь, вашь, гонець, теперь*); часта сустракаецца архаічнае спалучэнне **гы, кы, хы** (*векы, грехы, рукы, глубокый*); суіснуюць старыя і новыя формы **назоўнікаў** (родны склон, адзіночны лік, мужчынскі род: *греха, закона, мармура і ветру, голоду, жару;* творны склон: *жатци, женци, корабли і злодеими, путми, рицерми;* назоўны склон множнага ліку: *волци, ворози, друзи і мужове, сторожове, толмачеве*); **прыметнікаў** (назоўны склон адзіночнага ліку жаночага роду: *глубокая, великая, острая і глупаа, добраа, лихаа*; родны склон адзіночнага ліку мужчынскага роду: *богатого, водного, верного і безумнаго, восходящаго, суетнаго);* перфект **дзеяслова** ўжываецца з **беларускай звязкай есми**: *виделъ есми*. Пераважаюць поўнагалосныя формы тыпу *берег, беремя, боронити*, прыкметна пашыраны і царкоўнаславянскія і польскія формы няпоўнагалосся: *глава, гласъ, древо і засромоченый, слодость*. Такім чынам, царкоўнаславянская стыхія ў гэтых перакладах яшчэ прысутнічае, але жывая беларуская мова пераважае, што і дае падставу лічыць тэксты перакладаў **беларускімі**. Змешчаныя ў разгледжаных зборніках пераклады кананічных тэкстаў на беларускую мову ўзніклі раней і незалежна ад Скарыны. Яны азнаменавалі сабой паваротны пункт у гістарычным лёсе беларускай мовы старажытнага перыяду, які стаў магчымы дзякуючы пранікненню на нашыя землі новых прагрэсіўных павеваў у філасофскай і грамадскай думцы з краін Цэнтральнай і Заходняй Еўропы і, перш за ўсё, Адраджэння і гуманізму.

*(Працяг будзе.)*

ACADEMIA «NS»

Мікалай КРЫЎКО

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

1. **ПЕРАРЭ́ЗАЦЬ** (разрэзаць на дзве часткі) *[Краб] перарэзаў [клюшнямі] рыбіну на дзве часткі, нібы нажніцамі для бляхі паперу* (Караткевіч), **ПЕРАЦЯ́ЦЬ і ПЕРАТНУ́ЦЬ** *Мне няміла Слухаць хлуса над ракой: вострыя сякеры, пілы Перацялі горла ёй* (Бялевіч). *Травы маладой перацяты жмут Ляжыць у канаве...* (Барадулін). — *Незак.:* **Перараза́ць і перарэ́зваць, пераціна́ць.**

2. **ПЕРАРЭ́ЗАЦЬ** (пра чыгунку, дарогу, баразну і пад.: ідучы ў якім-н. напрамку, раздзяліць на часткі што-н.) *Лясы расхінуў [Нёман], перарэзаў узвышшы І супраць стыхіі скудлачанай выйшаў* (Калачынскі), **ПЕРАЦЯ́ЦЬ і ПЕРАТНУ́ЦЬ** *Чыгунка двума нацягнутымі струнамі перацінала вялікі сасновы бор* (Кулакоўскі). **ПЕРАСЯЧЫ́ і ПЕРАСЕ́КЧЫ** *Чыгунка перасекла вобласць з усходу на захад* (Колас). *Выйшлі на сенажаць, якую перасякала рэчка ў лазовых кустах* (Пестрак), **РАССЯЧЫ́ і РАССЕ́КЧЫ** *Скажы, з якой прычыны Для брата роднага стаў родны брат чужак? Чаму на двое поле канюшыны Рассекла пагранічная мяжа?* (Чэрня). *...выехаў папярочнаю сцежкаю, што рассякала папалам без таго кароткія вераснёўскія дзялкі, на шырокую пясчаную дарогу...* (Адамчык), **ПРАРЭ́ЗАЦЬ** *Тут сцяна хвояў..., іх прарэзала новая дарога* (Чорны), **РАЗРЭ́ЗАЦЬ** *Дарога разрэзала зялёную густэчу лясоў, абвіла чорнай стужкай пагоркі, пакручаста выгнулася ў далінах* (Дзятлаў), **ПЕРАКРО́ІЦЬ** *Луг перакройвае рачулка* (Ракітны), **ПРАЦЯ́ЦЬ і ПРАТНУ́ЦЬ** *Колькі сцежак-дарожак працяло вашы нетры глыбокія!* (Чарнышэвіч). **ПРАЧАРЦІ́ЦЬ** *Я не адрываюся ад акна і не перастаю здзіўляцца... гэтым высакавольтным лініям электраперадач, што прачарцілі ў розных напрамках лясы і пералескі, нізіны і балоты* (Місько). — *Незак.:* **Перараза́ць, перарэ́зваць і рэ́заць, пераціна́ць, перасякаць, рассяка́ць, прараза́ць і прарэ́зваць, разраза́ць і разрэ́зваць, перакро́йваць і кро́іць, працінаць, прачэ́рчваць.**

3. **ПЕРАРЭ́ЗАЦЬ** (пра маршчыны, рубцы і пад.: пакрыць сабою цела; для дзеепрыметнікаў — пра цела, яго часткі: пакрыты маршчынамі, рубцамі і пад.) *Круты смуглявы лоб ад скроні да скроні перарэзалі раўчакі маршчын* (Мележ). *Лоб у Скакуна перарэзалі глыбокія зморшчыны* (Шашкоў), **ПЕРАЦЯ́ЦЬ і ПЕРАТНУ́ЦЬ** *Перацяты маршчынамі твар. Глыбокія маршчыны перацінаюць шчокі,* **ПРАЦЯ́ЦЬ і ПРАТНУ́ЦЬ** *Шрам працяў (пратнуў) шчаку. На пераносіцы між брывей у Марціна напух працяты маршчынай бугорчык* (Мележ), **ПЕРАСЯЧЫ́ і ПЕРАСЕ́КЧЫ** *Лоб яе [маладой жанчыны] ўздоўж перасекла глыбокая зморшчына, якая неяк адразу змяніла выраз яе ажыўленага твару на пакутлівы* (Валасевіч). **РАССЯЧЫ́ і РАССЕ́КЧЫ** *Шчокі рассечаны глыбокімі маршчынамі. У Ліпанавай пасля кожнага адказу глыбокія маршчыны рассякалі лоб* (Асіпенка), **ПРАРЭ́ЗАЦЬ** *З часам Алесь зрабіўся з выгляду бадай ранейшым, толькі першая маршчына прарэзала ягоны лоб* (Шыцік). **ЗРЭ́ЗАЦЬ** *Глыбокія маршчыны... зрэзалі вялікі лоб* (П.Ткачоў), **ПАРЭ́ЗАЦЬ** *Твар маршчыны цяжкія парэзалі, Мазалі, як крывавыя раны* (Бураўкін), **ССЯЧЫ́ і ССЕ́КЧЫ** *Воспа ссекла твар,* **ПАСЯЧЫ́ і ПАСЕ́КЧЫ** *Цімашкоў за апошнія гады вонкава змяніўся: крыху схуднеў тварам, лоб пасеклі маршчыны* («Беларусь»), **СПАЛАСАВА́ЦЬ** *Такое ўражанне было ад глыбокіх, не па гадах, маршчын, што спаласавалі лоб, ляглі пад вачамі* (Ваданосаў), **ПЕРАПАЛАСАВА́ЦЬ** *Маршчыны перапаласавалі лоб і шчокі,* **ПРАЛЕ́ГЧЫ** *Светласці твару надаваў высокі, валікам завіты чуд над ілбом, на якім павуцінкай праляглі маршчынкі* (Дуброўскі). **ЗАЛЕ́ГЧЫ** *З болем бачыць Кацярына Маці сумную сваю. Што не спіць яна начамі Ад маркоты і тугі, Што залеглі пад вачамі Два смяротныя кругі* (Броўка), **ЛЕ́ГЧЫ** *На твары лёг маршчынаў першы след* (Танк). *Ляцім мы да новай вяршыні святла, яшчэ адна складка на твары лягла, яшчэ адзін волас упаў з галавы* (Кляшторны). — *Незак.:* **Перараза́ць, перарэ́зваць і рэ́заць, пераціна́ць, працiна́ць, перасякаць, рассякаць, прараза́ць і прарэзваць, зраза́ць і зрэзваць, ссякаць і сячы, паласава́ць, перапаласоўваць, пралягаць, заляга́ць, класціся і лажыцца.**

Беларуская мова — мова навукі

# Фізікі адолелі прыцяжэнне чужой планеты

Нядаўна выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла ў свет «Руска-беларускі фізічны слоўнік», які налічвае блізу 23 000 тэрмінаў. Такое выданне здзейснена на Беларусі ўпершыню. Аўтарам (У.Самайлюковіч, У.Пазняк, А.Сабалеўскі; навуковыя рэдактары В.Вячорка, А.Шастаковіч) давялося распрацоўваць новыя тэрміны і пераглядаць спадчыну, што ацалела пасля 60-гадовага перыяду русіфікацыі. Гэта неабходна было зрабіць з наступных прычынаў.

У пасляваенны час выкладанне фізікі па-беларуску ў ВНУ не вялося, наша мова была выціснута і з навуковых выданняў. У выніку яна страціла спецыфічна-эмпірычны матэрыял для фармавання тэрмінаў і амаль усе набыткі навукоўцаў 20-х гадоў. Фізічная тэрміналогія была абмежавана школьнай праграмай, а мова перакладзеных з расійскіх выданняў падручнікаў была зрусіфікаваная.

Калькаванне чужой тэрміналагічнай сістэмы, наогул, тоіць небяспеку пераносу ўсіх яе хібаў, непаслядоўнасцяў, а да таго ж шмат якія тэрміны, створаныя такім чынам, не адпавядаюць духу нашай мовы.

Сучасных фізічных тэкстаў на нашай мове існуе няшмат, і ўкладальнікі слоўніка мелі пэўную свабоду выбару. Яны выкарыстоўвалі перавыдадзеныя слоўнікі В.Ластоўскага, С.Некрашэвіча і М.Байкова, улічылі традыцыі і набыткі 20-х гадоў, калі на Беларусі былі закладзены асновы нацыянальнай навуковай тэрміналогіі, арыентаванай на ўласныя моўныя рэсурсы і сродкі. Развіваючы беларускія традыцыі, аўтары дастасоўвалі іх да сучасных патрэбаў сістэмнасці, адназначнасці, а таксама і зручнасці ўтварэння новых тэрмінаў. Яны імкнуліся пазбегнуць неапраўданага пазычання і калькавання з іншых моваў.

Адна з асаблівасцяў тэрміналогіі прыродазнаўчых навукаў, у тым ліку і фізічнай, — гэта наяўнасць у ёй інтэрнацыяналізмаў, што паходзяць пераважна з лаціны. Відавочна імкненне ўкладальнікаў слоўніка наблізіць напісанне і вымаўленне тэрмінаў да мовы арыгінала. Неабходна адзначыць, што шэраг словаў, улучаных у слоўнік, не з'яўляюцца ў строгім сэнсе спецыяльнымі фізічнымі тэрмінамі. Аўтары змясцілі іх там з прычыны частага ўжывання ў падручніках і дапаможніках. Безумоўна, што ў асобных выпадках можна было знайсці лепшыя варыянты і больш сістэмна правесці пэўныя навацыі.

Укладальнікі слоўніка ўлічвалі канкрэтныя канцэптуальныя падыходы і прынцыпы, увасобленыя ў папярэдніх тэрміналагічных слоўніках (у прыватнасці, у матэматычным), якія былі напрацаваны на шматлікіх пасяджэннях Навуковага матэматычнага семінара Тэрміналагічнай камісіі ТБМ імя Ф.Скарыны, што працаваў на працягу 1992 года і ў працы якога ўдзельнічалі матэматыкі і філолагі з розных менскіх ВНУ, а таксама супрацоўнікі выдавецтваў «Вышэйшая школа» і «Навука і тэхніка». Згаданы семінар праводзіўся спачатку адзін, а пасля два разы на тыдзень. Актыўны ўдзел у працы семінара браў адзін з навуковых рэдактараў «Руска-беларускага фізічнага слоўніка» Вінцук Вячорка і ў свой час аказаў вялікую дапамогу матэматыкам у падрыхтоўцы «Тэрміналагічнага слоўніка па вышэйшай матэматыцы для ВНУ» (1993 г., «Навука і тэхніка», аўтары Т.Сухая, Р.Еўдакіменка, В.Траццякевіч, Н.Гудзень). Ягоныя бліскучыя здольнасці і энцыклапедычныя веды не раз дапамагалі знайсці выйсце з тупіковых, здавалася б, сітуацыяў.

Нельга не сказаць і пра рэдактара гэтага новага фізічнага слоўніка Зміцера Санько, супрацоўніка выдавецтва «Навука і тэхніка». Гэта беларускі Сыцін. Гэта чалавек, які не шкадуе сябе дзеля беларускага адраджэння. Дзе яшчэ можна знайсці такога рэдактара, які б пасля працоўнага дня рэгулярна (!) два разы на тыдзень, стомлены і, магчыма, без вячэры, па дзвedзве з палавінай гадзіны актыўна ўдзельнічаў разам з аўтарамі слоўніка ў працы гэтага семінара? Без ягонай самаахвярнай працы было б немагчымым выданне матэматычнага і фізічнага слоўнікаў. І гэта толькі крупіца таго, што ён робіць для Беларусі. Надзвычай адказнае, надзвычай грунтоўнае і ўдумнае стаўленне Зміцера Санько да сваёй працы заслугоўвае самай высокай пашаны. І калі ёсць на Беларусі такія людзі, яна будзе жыць вечна. Аўтар гэтых радкоў і ўсе матэматыкі — удзельнікі семінара ганарацца гэтым знаёмствам.

**Тамара СУХАЯ,**
**сябра матэматычнай секцыі Тэрміналагічнай камісіі пры Міністэрстве адукацыі і навукі, дацэнт Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі.**

*Тым, хто цікавіўся культурным жыццём Летувы яшчэ ў савецкі час, было знаёмае і імя Томаса Венцлавы — дысідэнта, якому ўдалося ў канцы 70-х гадоў эміграваць у ЗША. Ён вядомы паэт, вучоны, а таксама перакладчык. Цяпер працуе ў Йэльскім універсітэце ЗША, але рэгулярна наведвае сваю радзіму. У Вільні з ім сустрэлася карэспандэнтка «Литературной газеты», якой мэтр даў вялікае інтэрв'ю, дзе закрануты не толькі праблемы сучаснага літаратурнага працэсу ў Летуве, але і пытанні развіцця мовы. З фрагментамі гэтай часткі інтэрв'ю мы і знаёмім нашых чытачоў. Канешне, наша моўная сітуацыя — не летувіская, тым не менш меркаванне Т.Венцлавы і для нас, безумоўна, з'яўляецца цікавым. Трэба яшчэ звярнуць увагу на тое, што карэспандэнтка «ЛГ» імкнулася падкрэсліць, што ў Летуве адбываецца ўціск правоў «выхадцаў з Расіі», якім бы хацелася, каб Расія, яе кіраўніцтва, «гучна заяўляючы аб сваіх прыярытэтах у новым замежжы, і ў Летуве, у прыватнасці, рабіла акцэнт не толькі на ваенна-стратэгічных і эканамічных пытаннях, але ў першую чаргу на апецы «прывычнай інфармацыйнай і культурнай прасторы, што функцыянавала зусім нядаўна на расійскай мове ў значным аб'ёме».*

# Томас Венцлава: Мова развіваецца сама па сабе

**КАРЭСПАНДЭНТКА** папрасіла адказаць на пытанне, якім бачыцца Томасу Венцлаву стан летувіскай мовы — вуснай і пісьмовай. Ці апраўданы стогны адносна таго, што яна моцна пацярпела ад савецкага канцэлярыта (не ад расійскай мовы ў сапраўдным сэнсе, дадала карэспандэнтка). Ці ёсць небяспека моцна папсаваць сучасную бытавую летувіскую мову, дзяржаўнымі сродкамі прымушаючы выключна ёю карыстацца ў грамадскім жыцці, не зважаючы на рэальныя веды.

**ТОМАС ВЕНЦЛАВА:** — Гэта складаныя пытанні. Лямант з прычыны кепскага ўплыву адной мовы на другую здаецца мне перабольшаннем. Заўсёды знаходзяцца пурысты — людзі, што асабліва хварэюць за чысціню мовы, і ў нас такіх многа. Відаць, у эміграцыі нават болей, чымся ў самой Летуве. У многіх эмігранцкіх газетах можна прачытаць ляманты пра тое, што Саветы загубілі летувіскую мову, таму што ў ёй з'явіліся нейкія новыя словы, у тым ліку «дызайн», «талерантнасць» і г.д... Я ж лічу, што ўжыванне іншародных слоў зусім не шкоднае. Лепшым прыкладам у гэтым сэнсе з'яўляецца англійская мова. У нейкай меры гэта агромністая скрыня для смецця, куды скідваецца ўсё, а яна ўсё прымае і ўсё пераварвае. Мяркую, калі як мае быць пакорпацца ў вялікіх англійскіх слоўніках, там знойдуцца словы і летувіскія. Менавіта гэтае багацце і бясстрашша ў пераварванні ўсяго, што, магчыма, і дае, па-мойму, англійскай яе цяперашнюю магутнасць. Гэта дапамагло стварыць выдатную паэзію і ў немалой ступені садзейнічае таму, што англійская мова стала сёння асноўнай сусветнай.

Нешта падобнае адбываецца з расійскай мовай, нягледзячы на тое, што былі ў ёй і пурысцкія памкненні — пачынаючы з Шышкова, ранніх славянафілаў. Дарэчы, летувіскі моўны пурызм у вялікай ступені будуецца па славянафільскай мадэлі. Я не баюся займеннасці ўвогуле і лічу летувіскую мову дастаткова моцнай, каб пераварваць любыя новаўвядзенні.

Што да расійскай мовы, то, мяркую, у савецкі перыяд яе ўплыў быў мінімальным. Зрэшты таму, што **існаваў унутраны настрой — іншым разам нават не поўнасцю асэнсаваны — гэтаму ўплыву нізавошта не паддавацца.**

**КАРЭСПАНДЭНТКА** паскардзілася, што калі на бытавым узроўні зараз ніхто асабліва не звяртае ўвагу на нейчую рускамоўнасць, то гэтаму «некалькі пярэчыць жорсткая ўстаноўка чыноўнікаў усялякіх узроўняў: прымусіць кліента любога ўзросту і якасці ведаў разумецца толькі па-летувіску. Пры чым, калі чыноўнік, праявіўшы чалавечую літасць, пяройдзе на расійскую мову ці польскую, ён можа паплаціцца сваім рабочым месцам».

**Т.В.:** — Ну што ж, такія парадкі існуюць у любой краіне. У Францыі кожны чыноўнік будзе патрабаваць, каб вы гаварылі толькі па-французску, а ў Амерыцы — па-англійску. Праўда, у Амерыцы яны гэта зробяць параўнальна мякка, бо гэта ж краіна эмігрантаў, дзе калі не сам чыноўнік, то ягоны бацька ці дзед таксама некалі прыехалі ў гэтую краіну. Афіцыйнае жыццё ў цяперашніх Штатах адбываецца выключна на англійскай мове. Дарэчы, многія супраць гэтага пратэстуюць — гэта нікому не забараняецца. Існуе даволі моцны рух за англа-іспанскае двухмоўе, у некаторых штатах іспанамоўныя людзі дамагаюцца асаблівых правоў для сваёй мовы. На Гаваях, дзе я быў некалькі разоў, існуе прыкметнае англа-японскае двухмоўе і ў нейкай ступені прысутнічае мясцовая палінезійская мова, праўда, больш у якасці дэкарацыі... Словам, у Амерыцы ёсць нейкія двухмоўныя ўзаемадзеянні, але гэта заўсёды барацьба. Але калі ты кепска разумееш па-англійску, таму што ты эмігрант, а табе трэба запоўніць нейкую там паперу, табе, увогуле, дапамогуць і не стануць тыцкаць носам у гэтую паперыну са словамі: ты, сякі-гэткі, калі жывеш у Амерыцы, абавязаны ведаць англійскую. Выходзіць, нельга скардзіцца на тое, што ў краіне патрабуюць весці справы на дзяржаўнай мове, але грубасці чыноўнікаў патрэбна пазбягаць, і Амерыка, па-мойму, тут някепскі прыклад. Летувіскія перагібы можна, пэўна, палічыць дзіцячай хваробай, якая абавязкова пройдзе.

**КАР.:** — Калі летувіская мова, па-вашаму, арганічна развіваецца сёння, то за кошт чаго пераважна: вяртання архаізмаў, новаслоўя, адштурхоўвання-ўзаемадзеяння з суседнімі ці сусветнымі мовамі.

**Т.В.:** — Здаецца, пакуль яшчэ рана гаварыць пра нейкае арганічнае развіццё. Цяжка сказаць, што зараз адбываецца: нейкая поўная каша, усе разгублены, у тым ліку і лінгвісты. Востра адчуваецца недахоп таленавітых людзей у моўнай палітыцы. У нас, канешне, быў выдатны лінгвіст — хоць ён і быў пурыстам — **Йёнас Яблонскіс, чалавек надзвычай таленавіты, нават геніяльны. Ён стварыў сотні, калі не *тысячы* неалагізмаў, якія так спакойна ўвайшлі ў летувіскую мову і прыжыліся ў ёй, як быццам яны заўсёды там былі...**

Узаемадзеянне з сусветнымі мовамі мне здаецца непазбежным, і не толькі з англійскай ці нямецкай, але і з расійскай. Але, па вялікаму рахунку, я ўпэўнены: якая б ні была моўная палітыка, мова развіваецца сама па сабе.

**КАР.:** — Родная мова ў эміграцыі...

**Т.В.:** — Тут я магу працытаваць тое, што мне аднойчы сказала Анна Андрэеўна Ахматава.

Я быў вельмі малады, і мяне ёй прадставілі, паколькі я перакладаў яе вершы на летувіскую. Зайшла размова, і я даволі нахабна заявіў, што сапраўдная летувіская мова — выдатная, гібкая і гожая — захавалася толькі ў эміграцыі, а ў самой Летуве яна саветызаваная, сапсаваная і г.д. Словам, паўтараў нейкія агульныя месцы, якія многія паўтаралі тады ды і зараз яшчэ паўтараюць. На што Ахматава адказала: «Этого мне, пожалуйста, не говорите. Я слышала то же самое и о русском языке в эмиграции, но на самом деле родная речь в эмиграции законсервирована и мертва, и только дома мы свой язык развиваем, портим, куда-то движем. И куда бы мы его ни двигали — в плохую сторону или хорошую — делаем его мы, живущие здесь».

Канешне, яна казала праўду, як і ў агромністай большасці сваіх выказванняў.

Як захоўваецца родная мова ў эміграцыі? Летувісам гэта добра ўдалося. Па крайняй меры, тым, хто супрацоўнічае ў летувіскай перыёдыцы ці хаця б чытае гэты друк, хто ездзіць на нейкія летувіскія з'езды.

Гэтага не скажаш пра новых расійскіх эмігрантаў. Сярод іх ёсць даволі значная група людзей, якія самахоць пераходзяць на англійскую мову і дзяцей навучаюць толькі ёй, лічачы, што так яны хутчэй праб'юцца, зоймуць прыкметнае месца ў грамадстве, заробяць вялікія грошы і гэтак далей. У летувіскай жа эміграцыі працягвае існаваць адчувальнае, часткова нават сентыментальнае стаўленне да роднага слова.

Чаго варты, скажам, той факт, што ў Чыкага існуюць дзесяткі летувіскіх перыядычных выданняў і выдавецтваў. Зараз іх колькасць памяншаецца, але ўсё роўна многія працягваюць працаваць. **Летувісы здолелі выдаць у эміграцыі 37-томную энцыклапедыю на роднай мове**! Ніводная нацыянальная група — нават яўрэі — зрабіць гэтага ў эміграцыі не здолела.

Што да адносін да Расіі і расійскай мовы, у прыватнасці, з боку летувісаў, Томас Венцлава перакананы: яны будуць тым лепшымі, чым меншым будзе ўмяшанне ў гэтую справу ўладных структур. Увогуле, заўважыў Томас Венцлава, культура — справа вельмі тонкая, і развівацца яна павінна сама.

* * *

А, увогуле, часам дзівішся: няўжо і сапраўды летувісаў ці не ў пяць разоў меней, чымся беларусаў?

**Ул.Ас.**

